№ 18 (807) 15 мая 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




# Душа народа

«Калі я ўступіў на пасаду, то на маім аўтамабілі быў бел-чырвона-белы штандар. Але я заўсёды быў прыхільнікам чырвона-зялёнай сімволікі. Для мяне гэтыя сімвалы — душа народа», — сказаў Аляксандр Лукашэнка 7 мая.

У Максіма Гарэцкага ёсць геніяльны раман «Дзве душы». Гэтая метафара як найлепш адлюстроўвае і сітуацыю з сімволікай. Адной душы падабаецца чырвона-зялёны сцяг, у гонар якога нават цэлую плошчу назвалі **(старонка 5)**.

Праўда, ёсць на той плошчы і дзве Пагоні. «Пагоня», якая разам з бел-чырвона-белым сцягам падабаюцца другой душы. Гэтыя сімвалы ўздымаюць высока без фанфараў, часам з рызыкай для жыцця. Уздымаюць паўсюль, і на мітынгах, і на канцэртах. І на хакеі, што выклікала на мінулым тыдні вялікую паленіку **(старонка 6)**.

Але ці ўсё мы ведаем пра сапраўдную нацыянальную сімволіку? **Старонка 11.**

**На фота:** Швэдар хакеіста зборнай Беларусі ўзору 1995 года. З калекцыі газеты «Прессбол».

# «Што было, то было»: бацьку Ірыны Абельскай пры Сталіну асудзілі на 25 гадоў за «антысавецкую дзейнасць»

Жорсткі прысуд раскідаў сям'ю Пастаялкаў па ўсім Саюзе.

9 сакавіка 2007 года ў канцэртнай зале «Мінск» наменклатурная эліта развітвалася з Людмілай Пастаялкай. Вянок ад кіраўніка дзяржавы, ганаровая варта, салют з артылерыйскай зброі, выкананне дзяржаўнага гімна... Памерлую пахавалі на самых прэстыжных Усходніх (Маскоўскіх) могілках Мінска.

Людміла Андрэеўна ў 2002—2005 была міністрам аховы здароўя Беларусі, потым ачольвала камісію савета рэспублікі. Яе дачку Ірыну Абельскую, прыгожую маладую жанчыну, у 1994 выбралі на адказную пасаду — быць асабістай доктаркай першага прэзідэнта Беларусі. Пасля Аляксандр Лукашэнка прызначыў яе кіравацьЛечкамісіяй — бальніцай у цэнтры сталіцы для наменклатурнай эліты.

Тады, у 2007, Ірына ішла за труной разам з блізкімі сваякамі. Яе брат, Андрэй Пастаялка, раз-пораз узгадваецца ў прэсе. Вось ён абараніў у Расіі кандыдацкую медыцынскую дысертацыю, вось ён працуе ў аддзяленні прамянёвай дыягностыкі ў Лечкамісіі, якую ўзначальвае сястра...

У той жа час іх бацька, Сцяпан Пастаялка, заставаўся па-за ўвагай. Імя ягонага поўнага цёзкі мы раптам выпадкова сустрэлі ў спісе ахвяр сталінскіх рэпрэсій: «Сцяпан Пастаялка, вёска Батарэя Бярозаўскага раёна, асуджаны на 25 гадоў за «антысавецкую дзейнасць», рэабілітаваны». Ці ён гэта? А калі менавіта ён, што хаваецца за гэтымі кароткімі радкамі, якія суха апісваюць чалавечы лёс, паламаны савецкай дыктатурай?

Карэспандэнты «НН» выправіліся ў Батарэю, каб праверыць звесткі і даведацца ад мясцовых жыхароў падрабязнасці тых трагічных падзей.

### «Антысавецкая дзейнасць»

У студзені-сакавіку 1952 у Бярозаўскім раёне органы МГБ праводзяць масавыя арышты вяскоўцаў, схоплена 11 чалавек. Заводзіцца крымінальная справа. 31 сакавіка 1952 выносіцца хуткі прысуд. Сям'і Драгуноў з Лявошак прыпісваюць здраду радзіме — удзел у Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Астатніх — сям'ю Пухоўскіх і Мікалая Дземідовіча з Вялікага Міжлесся, а таксама сям'ю Пастаялак з вёскі Батарэя — абвінавачваюць у антысавецкай дзейнасці.

Дзевяць чалавек атрымліваюць стандартны вырак — 25 гадоў выпраўленчых лагераў з канфіскацыяй маёмасці. Пасля тэрмін скарачаюць да 10 гадоў. Зусім хутка асуджаных беларусаў раскідваюць па ўсім СССР. Хтосьці адбывае пакаранне ў Архангельскай вобласці, кагосьці закідваюць у Карагандзінскую вобласць, а некага ажно ў Магадан... Даволі частая гісторыя для Заходняй Беларусі 1940—1950-х, дзе працягвалася змаганне беларусаў, украінцаў і палякаў з савецкай уладай. На Берасцейшчыне наймацнейшым было ўкраінскае падполле. Менавіта яму дапамагалі і Пастаялкі.

1952 год быў часам, калі спецслужбы дабівалі апошнія падпольныя групы, якія пратрымаліся найдаўжэй.

Працяг на старонцы 7.

# Анджаліна Джолі выдаліла грудзі з-за пагрозы раку



37-гадовая амерыканская акторка Джолі не стала хаваць факта, а публічна яго агучыла.

Яе калонка «Мой медыцынскі выбар» апублікаваная ў газеце New York Times. Па словах актрысы, дактары дыягнаставалі ў яе 87-працэнтную верагоднасць раку грудзей і 50-працэнтную верагоднасць раку яечнікаў.

Маці Джолі памерла ад раку ў 56 гадоў, і гэта стала галоўнай прычынай, па якой актрыса рашылася на аперацыю. На гэты момант рызыка ўзнікнення раку ў Джолі знізілася да 5%.

На месца выдаленых грудзей Джолі паставілі імпланты. Паводле яе слоў, знешне наступствы хірургічнага ўмяшання практычна непрыкметныя.

Джолі падзякавала свайму партнёру Брэду Піту за яго каханне і падтрымку. «Я перакана볼ая, што зрабіла цяжкі выбар, які ніякім чынам не прымяншае маёй жаноцкасці», — сказала яна.

«Я спадзяюся, што любая жанчына, якая гэта прачытае, будзе ведаць, што ў яе заўсёды ёсць выйсце, што б з ёй ні здарылася», — цытуе Джолі Бі-бі-сі.

«Заклікаю ўсіх жанчын, асабліва калі ў вашай сям'і хтосьці хварэў на рак грудзей або яечнікаў: не бойцеся шукаць інфармацыю і спецыялістаў, якія могуць вам дапамагчы, і рабіце ўласны ўсвядомлены выбар».

Галівудскія зоркі Анджаліна Джолі і Брэд Піт жывуць разам з 2005 года, хоць і не знаходзяцца ў афіцыйным шлюбе. Яны выхоўваюць шасцярых дзяцей, у тым ліку трох усыноўленых.

**Сямён Цыбульскі**

### Падзякі за падтрымку «Нашай Нівы»

С.С. з Гомеля.
М.С. з Чачэрскага раёна.
Сяргею П. з Талачынскага раёна.
Аляксандру С. з Мазырскага раёна.
Вользе Б. з Столінскага раёна.
Мікалаю Р. з Навагрудскага раёна.
Тадэвушу Ш. з Маладзечанскага раёна.
Мікалаю К. з Полацкага раёна.
Уладзіміру Ц. з Лагойскага раёна.
Алене с. з Магілёва.
Васілю М., Сцяпану Г., Генадзю К. з Мінскага раёна.
Сяргею К. з Пінскага раёна.
Яўгеніі П. з Нясвіжскага раёна.
Г.К., Наталлі Р.,  А.С., А.П., Віктару С., Я.Ч. з Гродна.
А.П. з Брэста.
Раману М. з Чашніцкага раёна.
Мікалаю Ш. з Салігорскага раёна.
Анатолю К. з Ушацкага раёна.
В.Б., Уладзіміру Г. з Баранавіцкага раёна.
Грыгорыю С., Валянціне Г. з Бешанковіцкага раёна.
Н.Т. з Асіповіцкага раёна.
Святлане К. з Лідскага раёна.
Сяргею К., Г.Э., Антону Т. з Смалявіцкага раёна.
Генрыху З. з Ляхавіцкага раёна.

Вераніцы Л., М.К., Інэсе В., Ніне Ш., В.М., Ірыне Ц., М.С., Віталію Р., Алегу Т., Наталлі М., Мікалаю К., Івану Ш., Віктару Д., Алене М., Васілію Ш., Наталлі М., Зінаідзе Б., Юрыю Я., Ніне А., Людміле А., Тэрэсе Р., Аляксандру С., Алене Л., Леаніду Л., М.Ж., Таццяне Ш., Дар'і Д., Дануце Р., Марыне Р., Васілію С., Аляксандру Ц., Аляксандру А., Андрэю А., Людміле П., Юліі А., Аляксандры С., С.Г., Веры Ч., Валянціне Ш., Тамары К., Алене П., Валянціне Г., Эдуарду А., Анастасіі А., Дзіане Б., Сяргею Б., Мікалаю П., Юрыю П., Уладзіміру Б., Лізавеце Б., А.Ф., А.Дз., В.М., В.Г., Уладзіміру П., В.П., Алесю М., Уладзіміру І., Мікалаю Дз., Ігару Б., Дзмітрыю Б., Алесю В., Эдуарду С., В.Ц., Яўгенію П., А.Ф., Тамары К. з Мінска.

### Апытанне на nn.by

**Калі б Вы былі на Чэмпіянаце свету па хакеі, Вы б балелі з бел-чырвона-белым ці з чырвона-зялёным сцягам?**

| | | |
|---|---|---|
| З бел-чырвона-белым | 1197 | 81% |
| З чырвона-зялёным | 49 | 3% |
| Мне ўсё адно | 38 | 3% |
| Хакей шкодзіць мозгу | 189 | 13% |



### Сцісла

**У Глыбоцкім раёне ўначы замалявалі «Пагоню» на балконе прыватнай кватэры**

Прадпрымальнік Мар'ян Місевіч павесіў «Пагоню» на балконе сваёй прыватнай кватэры ў Падсвіллі (Глыбоцкі раён). Праз тыдзень супрацоўнікі ЖКГ уначы замалявалі герб, а на гаспадара кватэры склалі пратакол.

**У Ружанскім замку завершана рэканструкцыя ўязной Брамы**

Работы праводзілі спецыялісты ААТ «Брэстрэстаўрацыя». У Ружанах была рэзідэнцыя аднаго з самых магутных родаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай — Сапегаў.

**Данія — фаварыт**

20-гадовая датчанка Эмілі дэ Форэст з песняй Only Teardrops («Толькі кроплі слёз») — галоўны фаварыт «Еўрабачання-2013» у шведскім Мальмё. Прынамсі, так лічаць букмекеры. У Алёны Ланской шанцы разглядаюцца як 1 да 100.

**Расія разарвала дамову аб транзіце азербайджанскай нафты**

Гэтае рашэнне Масквы можа быць палітычным. Азербайджан не ўваходзіць у зону ўплыву Расіі і ўсе апошнія гады імкнуўся дыверсіфікаваць шляхі экспарту сваіх нафты і газу.

**Кіраўнік М'янмы плануе першы візіт у ЗША**

Тэйн Сейн рыхтуецца да першага візіту ў ЗША, паведамляе дзяржаўнае тэлебачанне. У выпадку пацверджання паездка стане першым за 47 гадоў падарожжам першай асобы М'янмы ў Вашынгтон. За апошнія два гады адносіны дзвюх краін рэзка палепшалі, бо М'янма пачала пераход да дэмакратыі.

**ЮУ, СГ**

### Рэкамендуем

## Мы і яны

Мы называем гэта «наш бел-чырвона-белы сцяг», яны — «назарегистрированная символика». Піша Уладзімір Хільмановіч.

## У 90-гадовай ветэранкі вайны адбіраюць кватэру

Відэарэпартаж.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

### Самае чытанае на nn.by за 8 — 14 мая 2013

1 Фільм «Жыве Беларусь» выкладзены ў інтэрнэце

2 Жалезнічэнка: «Жыве Беларусь» — плод хворай фантазіі

3 Лукашэнка: Новая рэзідэнцыя прэзідэнта будзе называцца «Палац Незалежнасці»

4 «Смерць пацыенткі К.»: вынікі службовага расследавання — дакументы

5 «Маліце Бога, каб маскалі да нас ехалі»

6 Хакейнай камандзе Лукашэнкі залічана паражэнне, ён адмяніў прылёт у Сочы

7 На Плошчы Дзяржаўнага сцяга і герба будзе дзве выявы з «Пагоняй»

8 Беларусь вачыма расіян. 15 выказванняў

9 Скандынаўская прэса пра бел-чырвона-белы сцяг: «Дыктатар забараніў»

10 Дзёрская акцыя на Дзень Перамогі ў Маскве

# Каманду Лукашэнкі злавілі на махлярстве

**Больш за палову**
каманды — прафесіяналы.



Віктар Лукашэнка не грае ролю першай скрыпкі ў камандзе прэзідэнта.

У Сочы прайшоў II Усерасійскі фестываль па хакеі сярод аматарскіх каманд. Прымала ўдзел у турніры і каманда Аляксандра Лукашэнкі. Праўда, сам кіраўнік дзяржавы на папярэднія гульні не быў заяўлены.

Затое сярод гульцоў былі Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі. Абодва не набралі ніводнага выніковага пункта. На рахунку Віктара толькі адзін двуххвілінны штраф.

Пачатак турніру для беларусаў быў бясхмарны. Па чарзе здабытыя перамогі над Wild Blueberries з канадскага Квебека (11:0), малдоўскай «Плацінай» (8:4) і Drvene Nogice з Сербіі (11:7). Паводле афіцыйнай трактоўкі, на каманду Лукашэнкі паступіла скарга, што ў дружыне вельмі шмат прафесіяналаў. Каманду папрасілі прывесці склад у адпаведнасці з рэгламентам.

Згодна з рэгламентам, на турніры маглі гуляць прафесійныя гульцы, аднак толькі тыя, што скончылі кар'еру 15 гадоў таму. Тым не менш, каманда Лукашэнкі выйшла на паўфінальны матч супраць «Неўскага легіёна» тым самым складам. Беларусы перамаглі, аднак аргкамітэт залічыў тэхнічную паразу.

У эфіры «Беларусь-1» гэта назвалі інтрыгамі з боку кіраўніцтва Начной лігі, а менавіта прэзідэнта КХЛ, намесніка старшыні праўлення «Газпрама» Аляксандра Мядзведзева, які гуляў за «Неўскі легіён».

Аднак пройдземся па персаналіях. Ці маюць пад сабой грунт прэтэнзіі з расейскага боку (глядзіце табліцу)?

Трэнеры «Юнацтва» Міхаіл Захараў і Уладзімір Мелянчук, а яшчэ Вячаслаў Шараговіч таксама маюць досвед прафесійных гульцоў, але ад моманту скончэння іх кар'еры ўжо мінула 15 гадоў, таму тут прэтэнзій быць не можа. Гэта 11 з 20 гульцоў. Больш за палову складу.

Капітан гэтай каманды Андрэй Асташкевіч таксама пачынаў займацца хакеем у школе «Юнацтва», аднак прафесійная кар'ера ў яго не задалася. Цяпер Асташкевіч — капітан каманды прэзідэнта і самы выніковы яе гулец.

Пра сыноў кіраўніка краіны мы ўжо згадвалі. У камандзе Лукашэнкі таксама гуляе кіраўнік ДАІ Мінска Дзмітрый Карзюк. Брат праслаўленага хакеіста Руслана Салея Вадзім.

Зрэшты, гэта яшчэ не так заўважна. На традыцыйным мінскім калядным турніры сёлета за каманду Лукашэнкі гуляла адзінаццаць дзейных хакеістаў. І гэта супраць аматараў-пенсіянераў з Аўстрыі, Фінляндыі. Плюс хакеісты, што мелі досвед у НХЛ, чэмпіянатах Расіі, Германіі, зборнай Беларусі (Цыплакоў, Шыткоўскі, Мікульчык, Бекбулатаў, Антоненка). Не дзіва, што з года ў год такія «аматары» бяруць верх на гэтым турніры.

Відавочна, што выгнанне каманды Лукашэнкі будзе разглядацца не толькі ў рэчышчы хакейных разборак, але як і палітычная поўха. Раней жа тыя ж расейцы дазвалялі камандзе Лукашэнкі гуляць не па правілах.

**Зміцер Панкавец**

| | | |
|---|---|---|
| **Сяргей Пігулеўскі**  | **Гуляў за:** «Дынама» (Мінск), «Хімік-СКА», «Брэст». У чэмпіянаце Беларусі выступаў яшчэ ў сезоне 2004/2005. | **На турніры:** 0 галоў + 4 перадачы |
| **Андрэй Калеснікаў**  | «Металург» (Новакузнецк), «Авангард» (Омск), «Гомель». Сёння галоўны трэнер жлобінскага «Металурга-2». Выступаў у 1998. | 4 галы + 4 перадачы |
| **Аляксей Емяльянаў**  | Удзельнік чэмпіянату свету па хакеі 1997. «Дынама-Энергія» (Екацярынбург), «Спартак» (Масква), «Крыстал» (Электрасталь). У чэмпіянаце Беларусі гуляў яшчэ ў 2005 за «Хімвалакно». | 4 гульні, 2 прапушчаныя шайбы |
| **Эдуард Валіулін**  | Гуляў за зборную Эстоніі па хакеі. Яшчэ ў сезоне 2003/2004 выступаў за «Гомель». | 0 галоў + 3 перадачы |
| **Аляксандр Румо**  | «Дынама» (Мінск), «Белсталь» (Жлобін), «Юнацтва». Апошні сезон у якасці гульца 1998/1999 за мінскі «Цівалі». | 4 галы + 0 перадач |
| **Андрэй Кудзін**  | «Хімік-СКА», «Віцебск». Апошні сезон у хакеі 2008/2009 у «Кераміне». | 3 гульні, 10 прапушчаных шайб |
| **Артур Лачаўніек**  | «Керамін», «Хімвалакно», «Нёман». Апошні сезон у хакеі 2006/2007 у складзе ў «Металурга» (Жлобін). | 0 галоў + 1 перадача |
| **Уладзімір Кудзін**  | Выступаў за «Гомель». | 0 галоў + 3 перадачы |



Злева направа: Мікалай Лукашэнка, Аляксандр Лукашэнка, Серж Саргсян і Гагік Царукян на адкрыцці царквы Святога Аванэса Мкрціча (Яна Хрысціцеля) у горадзе Абавян

**Фотафакт**

## Лукашэнка гасцюе ў найбуйнейшага алігарха Арменіі — «Додзі Гаго»

Замест турніру ў Сочы, дзе Лукашэнка хацеў узяць удзел у фінальнай гульні, кіраўнік краіны паляцеў у сонечную Арменію.

Паводле звестак Slaq.am, Аляксандра Лукашэнку ў аэрапорце Ерэвана сустракаў лідар партыі «Квітнеючая Арменія» Гагік Царукян, які адтуль прывёз яго да сябе ў асабняк. Лукашэнка начаваў у Царукяна дома, бо яны вельмі блізкія сябры.

Гагік Царукян нарадзіўся ў 1956 г. Старшыня і заснавальнік партыі «Квітнеючая Арменія», дэпутат Нацыянальнага Сходу, прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Арменіі. Лічыцца найбуйнейшым алігархам Арменіі, ключавым бізнес-партнёрам Роберта Качарана. У Арменіі больш вядомы па мянушцы «Додзі Гаго».

## Энергетычныя субсідыі Расіі Беларусі дасягнулі 10 мільярдаў даляраў за год

Такую ацэнку зрабілі супрацоўнікі Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Іх артыкул з'явіўся ў часопісе Нацбанка «Банкаўскі веснік».

«Толькі за кошт ільготных цэнаў на энерганосьбіты Рэспубліка Беларусь у 2012 заашчадзіла каля $10 млрд», — цытуе эканамістаў агенцтва «Інтэрфакс-Захад». Гэта складае амаль 16% ад ВУП. У прыватнасці, выгада Беларусі ад атрымання бязмытнай нафты склала каля $4,6 млрд.

Пры ацэнцы субсідый пры пастаўках газу эксперты параўналі яго фактычную цану для Беларусі з коштам паставак ва Украіну. Беларусь у 2012 купляла расійскі газ па $168 за тысячу кубаметраў. Для Украіны кошт газу складаў каля $430. Такім чынам, выйгрыш на газе склаў каля $5,3 млрд.

Прыкладна такую ж суму складуць расійскія субсідыі і ў 2013. У свеце няма другога прыкладу такой сама шчодрай падтрымкі адной дзяржавай другой. Гэтак, дапамога ЗША Ізраілю складае прыкладна 3 млрд даляраў за год, ці то 1,3% ад ВУП Ізраіля.

Нават адноснае скарачэнне расійскіх субсідый у 2009—2011 выклікала рэзкі рост замежнай запазычанасці і глыбокі фінансавы крызіс 2011 года.

**Мікола Бугай**

**Сцісла**

### Макея не пусцілі ў ЗША?

Кіраўнік беларускага МЗС паляцеў з Лукашэнкам у Арменію. Уладзімір Макей, які знаходзіцца пад дзеяннем міжнародных санкцый, 13 мая павінен быў наведаць Нью-Ёрк для ўдзелу ў сустрэчы, якая арганізавана ААН і прысвечана супрацьдзеянню гандлю людзьмі. Беларусь у Нью-Ёрку прадстаўляе яго намеснік Валянцін Рыбакоў.

### «Бульбаш-хол» змяніў назву

...і гатовы добраўпарадкаваць Курапаты. Такую інфармацыю паведаміў радыё «Свабода» начальнік управы аховы гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар Чарняўскі.

### Прадстаўнікі апазіцыі наведаюць Брусэль

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі запрошаны на трэцюю пленарную сесію Парламенцкай асамблеі Усходняга партнёрства (Еўранест), якая пройдзе 28–29 мая ў Брусэлі.

### Саннікаў сустрэўся са Шварцэнбергам

Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Андрэй Саннікаў праінфармаваў міністра замежных спраў Чэхіі Карла Шварцэнберга аб узмацненні націску на беларускіх палітвязняў. Сустрэча адбылася ў Празе 10 мая.

**ЗП**

# Прыватная медыцына пасля смерці Юліі Кубаравай

Трагедыя прымусіла задумацца пра якасць **камерцыйнай медыцыны**.

Гісторыя Юліі Кубаравай з Гродна абляцела ўсю Беларусь. Перад вяселлем (!) дзяўчына вырашыла зрабіць пластыку носа. Яна дзіцем яго зрушыла: трапіла снежка. Столькі гадоў жыла, але перад шлюбам рашыла зрабіць яго ідэальным. Толькі ўстаць пасля аперацыі яна не змагла. Чатыры тыдні яна правяла ў коме і памерла ў непрытомнасці. Яе не стала 23 красавіка.

Следчы камітэт пакуль не расставіў кропак над «і», але «Нашай Ніве» з крыніц, блізкіх да Міністэрства аховы здароўя, удалося даведацца вынікі службовага расследавання. Магчыма, трагедыя здарылася, бо медыцынскі цэнтр эканоміў на абсталяванні або халатна ставіўся да яго абслугоўвання. Мяркуючы па тым, што інжынера «Экамедсэрвіса» адпусцілі, а дырэктарку цэнтра пакінулі пад вартай, хутчэй, першае.


МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ЗДРАВООХРАНЕНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

РЕШЕНИЕ

ЛЕЧЕБНО-КОНТРОЛЬНОГО СОВЕТА

г. Минск

«30» апреля 2013г. № 34

О работе комиссии по оценке качества обеспечения безопасности и эффективности анестезиологического пособия в учреждениях здравоохранения негосударственной формы собственности

Заслушав и обсудив доклад председателя комиссии, созданной на основании приказа Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 18.04.2013г. № 514, главного внештатного анестезиолога-реаниматолога Министерства здравоохранения, лечебно-контрольный совет Министерства здравоохранения констатирует следующее.

Комиссией была проведена проверка 25 учреждений здравоохранения г. Минска негосударственной формы собственности.

В результате проверки комиссией установлено следующее:

1. имеются условия для проведения амбулаторных операций и


...ТВА ...ОУЯ ...АРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ЗДРАВООХРАНЕНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

РЕШЕНИЕ

...ЧЕБНО-КОНТРОЛЬНОГО СОВЕТА

г. Минск

...9 2013г. № 33

...лужебного ...учая смерти

... обсудив информацию председателя Республиканской комиссии, созданной на основании приказа Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 18.04.2013г. № 514 по вопросу оказания медицинской помощ... ...ке К. в СООО «Экомедсервис-медицинский цент... ...ый совет Министерства здравоохранения...

Пациентка К. обратила... ...ис-медицинский центр» ...



### Арыштаваныя і падазраваныя

Дырэктарцы «Экамедсэрвіса» Галіне Валжанкінай прад'яўлена абвінавачанне ў службовай халатнасці, якая пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Доктар-анестэзіёлаг, які ўваходзіў у склад аперацыйнай брыгады, абвінавачваецца ў неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента. Абое знаходзяцца пад вартай.

Галоўны інжынер «Экамедсэрвіса» адпушчаны пад абавязацельства аб яўцы. Ён падазраецца ў службовай халатнасці, якая пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

У статусе падазраваных за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медработнікам, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента, застаюцца хірург і медсястра, якая была яго асістэнткай, і сястра-асістэнтка доктара-анестэзіёлага. Яны знаходзяцца пад абавязаннем аб яўцы.

## Службовае расследаванне

Пасля таго, як гісторыю са смерцю Юліі Кубаравай раскрылі СМІ, да гэтай тэмы звярнуўся і кіраўнік дзяржавы. Лукашэнка даручыў Міністэрству аховы здароўя ўзяць «Экамедсэрвіс» пад кантроль і кіраванне. А Следчы камітэт пачаў расследаванне.

«НН» здабыла копіі рашэння Лячэбна-кантрольнай рады Мінздароўя «Аб правядзенні службовага расследавання смерці пацыенткі К.» Вынікі аказаліся шакуючымі.

Згодна з дакументам, анестэзіялогія пацыенткі праводзілася на тэхнічна няспраўным апараце. Агульнае абязбольванне рабілася без газавага маніторынгу, насуперак інструкцыям. І дзяўчыну адправілі ў палату, нягледзячы на тое, што не было прыкметаў яе вяртання ў прытомнасць. Арганізацыю меддапамогі ў «Экамедсэрвісе» прызналі не адпаведнай нарматыўным дакументам.

**Гіперкапнічная кома**

кома, выкліканая назапашваннем вуглякіслага газу да высокай канцэнтрацыі.

Поўны тэкст дакументаў Мінздароўя апублікаваны на сайце nn.by. Ён будзе цікавы як медыкам, так і звычайным людзям.

## «Абсорбер даўно павінны былі замяніць»

Вось што расказаў «НН» спецыяліст, знаёмы з ходам праверкі.

«У «Экамедсэрвісе» дзяўчыне далі ўнутрывенны наркоз — там толькі такі і робяць. Аднак пры гэтым яе падключылі да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх з закрытым контурам, г.зн. у якім паветра цыркулюе па коле. Хоць звычайна ШВЛ з закрытым контурам ужываюць пры газавым наркозе: каб дарагі наркоз не выходзіў у паветра і каб ім не дыхалі лекары.

У апараце ШВЛ з закрытым контурам ёсць абсорбер — простымі словамі, фільтр, які выдаляе лішак вуглякіслага газу з паветра, якім дыхае чалавек. У экамедсэрвісаўскім апараце ШВЛ гэты абсорбер быў ужо ні на што не прыдатны, яго мусілі замяніць яшчэ ў 2010 годзе. І не было ў іх газавага манітора, які паказвае канцэнтрацыю газаў і каштуе зусім танна. Таму падчас аперацыі дзяўчына папросту атруцілася $CO_2$ і ўпала ў кому, з якой так і не выйшла — для смерці мозгу шмат часу не трэба.

Дзіўна чытаць каментары людзей, якія не ведаюць, як выглядае скальпель, а вінавацяць ва ўсім хірурга. Ён рабіў сваю справу і без манітора, толькі па выглядзе пацыенткі, не мог заўважыць нейкай паталогіі. У здарэнні віна ўласніка абсталявання і анастэзіёлага», — лічыць спецыяліст.

## «Нагадвае трагедыю ў Гомелі»

«Наша Ніва» запыталася ў некалькіх дактароў, ці імавернай такая прычына трагедыі.

«Гэтая сітуацыя нагадвае смерць дзвюх рожаніц у Гомелі, — кажа анестэзіёлаг-рэаніматолаг Зміцер Салошкін. — Калі пабылталі балоны і пусцілі ў сістэму вуглякіслы газ. Тут, магчыма, таксама не сачылі за станам абсарбента ў апараце ШВЛ. Відаць, падчас Юлінай аперацыі ён перастаў выконваць сваю функцыю канчаткова, і ў контуры накопліваўся дыяксід вугляроду. У выніку — гіперкапнічная кома.

Пры гэтым без газавага манітора можна і не заўважыць змяненні стану. Нават наадварот, вуглякіслы газ можа выклікаць парэз — расшырэнне — дробных сасудаў, і пацыент не сінее, як пры гіпаксіі, а застаецца ружовым. Кіслароду магло быць досыць, але манітор мог не паказаць утрыманне $CO_2$», — патлумачыў Салошкін.

**Іншы выпадак: сем месяцаў у коме**

Пасля трагедыі Юліі, стала вядома яшчэ пра адну ахвяру пластычнай хірургіі. 33-гадовая Вольга Сукора 10 кастрычніка 2012 зрабіла пластычную аперацыю ў Мінскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы. Яна хацела выправіць прыкус. І з таго часу знаходзіцца ў коме. Дактары казалі ёй, што аперацыя паказана, а з часам праблема будзе ўзмацняцца. Па словах сваякоў, Вольга старанна рыхтавалася: праходзіла розныя абследаванні, здавала аналізы. Аднак аперацыя не прывяла да дабра.

Вольга самастойна дыхае, часткова ў яе захаваны глытальны рэфлекс, з`яўляюцца рухальныя рэфлексы, яна рэагуе на гук. Але медыкі не бяруцца прагназаваць далейшы стан жанчыны.

Любы анестэзіёлаг, нават не ведаючы пра канкрэтна гэты выпадак, скажа, што праблемы першых сутак пасля аперацыі, калі пацыент не прачнуўся пасля аперацыі, калі пацыента ў беспрытомным стане завезлі ў рэанімацыю, ёсць праблемамі анестэзіялогіі.

Працяг на старонцы 10.

**«Экамедсэрвіс»: 140 тысяч пацыентаў за год**

«Экамедсэрвіс» — адна з самых прэстыжных прыватных клінік Беларусі. Яна месціцца на вуліцы Талстога ў сталіцы, каля чыгуначнага вакзала. У інтэрнэце сцвярджалася, што ўдзел у гэтым бізнэсе мае Уладзімір Пефціеў, былы ўласнік «Белтэхэкспарта» і чалавек, які трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як магчымы фінансіст Аляксандра Лукашэнкі. Гэтыя звесткі ніхто не пацвердзіў і не абверг.

«Экамедсэрвіс» адкрыўся ў 1995. Заяўляецца, што ў прадпрыемстве ўдзельнічае амерыканскі капітал, аднак дакладны інвестар з ЗША невядомы. Старшынёй праўлення СТАА «Экамедсэрвіс» з'яўляецца Уладзімір Каява. Гэта кандыдат фізіка-матэматычных навук, ганаровы прадпрымальнік Беларусі.

У 2005 Міністэрства аховы здароўя прыпыніла «Экамедсэрвісу» разам з іншым вялікім цэнтрам, «Нардзінам», ліцэнзіі на медыцынскую дзейнасць праз грубыя парушэнні. Хадзілі чуткі, што дзяржава зрабіла такі захад, каб атрымаць частку акцый медцэнтра, аднак кіраўніцтва абвергла гэтую інфармацыю. У 2005 «Экамедсэрвіс» адкрыў гіганцкі, як для прыватнага цэнтра, пяціпавярховы будынак на вуліцы Талстога агульнаю плошчай у 5 000 кв. м.

«Шматфункцыянальнасць нашага медыцынскага цэнтра з'яўляецца нашым моцным бокам», — так і сёння пазіцыянуецца на сваім сайце. У ім прапаноўваецца шмат паслуг: клініка-дыягнастычная лабараторыя, стаматалогія (дзіцячая і дарослая), лячэбнае аддзяленне (тэрапія, хірургія, педыятрыя, УГД, гінекалогія, гастраэнтаралогія, кардыялогія, анкалогія, афтальмалонія, уралогія, эндакрыналогія ды інш.)

Генеральны дырэктар — Галіна Валжанкіна — цяпер знаходзіцца пад вартай. Яна ж была і галоўнай доктаркай. Да пераходу ў прыватную медыцыну працавала начальнікам упраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя.

У адным з інтэрв'ю Валжанкіна заявіла, што цэнтр за год прымае каля 140 тысяч пацыентаў. Гэта насельніцтва, напрыклад, Маладзечанскага раёна ўключна з горадам.

# Новую рэзідэнцыю назвалі Палацам Незалежнасці

**Пяць фактаў** пра новы комплекс.

Аляксандр Лукашэнка нарэшце прызнаў факт будаўніцтва велічнага адміністрацыйнага будынка на праспекце Пераможцаў у Мінску. Яшчэ ў студзені кіраўнік дзяржавы заяўляў, што не будуе сабе новых рэзідэнцый, а цяпер «прызнаўся»: гэта будзе ніякая не рэзідэнцыя, а Палац Незалежнасці. Побач з ім адкрыюць Плошчу Дзяржаўнага сцяга.

«Гэты комплекс быў задуманы як апошняя буйная кропка ў спрэчках аб нашай незалежнасці. Гэта, калі хочаце, дэманстрацыя таго, што Беларусь — гэта краіна, у гэтай краіне ёсць усё: ад зямлі, герба, сцяга і гэтага Палаца Незалежнасці», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

«Наша Ніва» сабрала пяць фактаў пра новы комплекс.

## 1. Падземны ход у палацы

Строгі квадратны будынак паміж праспектам Пераможцаў і вуліцай Арлоўскай яшчэ недабудаваны, а яго ўжо ахоўваюць як зрэнку вока. Па перыметры развешаныя камеры відэаназірання, а на ўваходах стаяць пасты міліцыі.

Будоўля пачалася якраз у разгар валютнага крызісу 2011 года і з таго часу не спынялася. Каркас рэзідэнцыі ўжо гатовы, цяпер ідуць аздобныя працы.

Фасад з казырком глядзіць на выставачны комплекс «БелЭкспа», у якім, дарэчы, нядаўна прайшла рэканструкцыя. Падобны ж казырок ёсць і на правым баку. На ім павесяць прастакутнае пано з выявай абрысаў Беларусі. Прагульваючыся па парку Перамогі ўздоўж Камсамольскага возера, можна ўбачыць паўкруглую шкляную прыбудову ззаду рэзідэнцыі.

На будоўлі працуюць будаўнікі з розных рэгіёнаў Беларусі і нават замежнікі. З прычыны сваёй сакрэтнасці будоўля абрастае чуткамі. Гэтак, карэспандэнту «Нашай Нівы» будаўнікі расказалі, што ад Палаца Незалежнасці да «БелЭкспа» ідзе падземны ход.

## 2. Другі дзясятак рэзідэнцый

Мяркуецца, што ў новым будынку будуць праходзіць асноўныя дзяржаўныя цырымоніі, у тым ліку ўручэнне замежнымі пасламі даверчых грамат ды сустрэчы з кіраўнікамі краін, якія прыязджаюць у Беларусь. Раней гэтыя цырымоніі і працоўныя сустрэчы адбываліся як у Палацы Рэспублікі, так і ў Нацыянальнай бібліятэцы ды рэзідэнцыі прэзідэнта на вуліцы Маркса.

Усяго ж у кіраўніка дзяржавы больш за дзясятак рэзідэнцый — некаторыя жылыя, некаторыя — рабочыя. Большасць з іх ён атрымаў у «спадчыну» з савецкіх часоў. Гэта і шасціпавярховы будынак ЦК КПБ, загараднае лецішча маршала Цімашэнкі ў Астрашыцкім Гарадку... У апошнія гады з'явіліся сядзіба ў Палескім запаведніку ды на Браслаўшчыне.

**Вышыня флагштока на Плошчы сцяга складзе 70 метраў, а памер сцяга 7х14 м. Яго будуць падсвечваць уначы**



Палац Незалежнасці яшчэ дабудоўваецца.

НАСТАССЯ ХРАПОВІЧ



Вышыня флагштока складзе 70 метраў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Паводле папярэдніх праектаў, каля «БелЭкспа» магла стаяць 430-метровая тэлевежа.

## 3. Беларускі сцяг ніжэйшы і меншы за азербайджанскі

Флагшток на Плошчы Дзяржаўнага сцяга паўстаў на месцы статуі старажытнарымскага бога-апекуна гандлю Меркурыя. Ягоная вышыня складзе 70 метраў — трохі ніжэй за 25-павярховы дом.

Паўколам вакол плошчы размешчаныя сем слупоў з выявамі гербаў абласцей і горада Мінска. На двух з іх — Віцебскай і Гомельскай — прысутнічаюць выявы нацыянальнага герба «Пагоня».

Чырвона-зялёнае палатно на флагштоку будзе найбуйнейшым у краіне. Ягоны памер складзе 14х7 метраў. Для параўнання, сцяг Азербайджана на адпаведнай плошчы ў Баку ў 25 разоў большы: 35 на 70 метраў. Да гарачых паўднёвых партнёраў беларусы не дацягнулі. Дарэчы, увогуле Плошчы Дзяржаўнага сцяга з гіганцкай сімволікай, як і Палацы Незалежнасці, найчасцей сустракаюцца ў краінах Цэнтральнай Азіі. Ані Літва, ані Польшча, ані Чэхія ці Швецыя такіх навабудаў не маюць. Зрэшты, там і сімволікі трымаюцца спрадвечнай.

## 4. «Міні-Беларусь» замест парку валуноў

У склад «комплексу Незалежнасці», апроч палаца і Плошчы сцяга, уваходзіць яшчэ міні-парк «Беларусь». Яго тэрыторыя паўторыць абрысы Беларусі. Замест межаў, паміж абласцямі будуць алеі, а замест буйных рэк — ручаі. На месцы самых вядомых архітэктурных помнікаў паставяць іх макеты ў маштабе 1:25. Такія паркі карыстаюцца папулярнасцю сярод турыстаў у многіх краінах свету.

Аднак падобны ўжо існуе ў Мінску! У мікраараёне Уручча ў канцы 1980-х звезлі некалькі тысяч валуноў з усёй краіны. Атрымаўся ўнікальны парк, таксама ў выглядзе абрысаў Беларусі. Прычым маштаб захоўваўся — 1 метр парку роўны рэальным 2 км. Без дзяржаўнай падтрымкі музей валуноў прыйшоў у заняпад, яго аблюбавалі мясцовыя п'яніцы.

## 5. Няўдалая будоўля стагоддзя

Да пустой прасторы непадалёк ад цэнтра Мінска прыглядаліся многія архітэктары. У канцы 1990-х быў арганізаваны міжнародны тэндар па выбары праекціроўшчыка новай мінскай тэлевежы. Яго выйграў Віктар Крамарэнка, той самы, што стварыў Нацыянальную бібліятэку. Ягоная ідэя прадугледжвала будаўніцтва 422-метровай вежы, якая мусіла сімвалізаваць міфічную папараць-кветку. Як вядома, яе ніхто не бачыў, таму і сказаць, ці падобная яна да праекта Крамарэнкі, не змог.

Чаму вежа, якая стала б чацвёртай па вышыні ў свеце, так і не была пабудаваная? Па-першае, кошт праекта быў вельмі высокі — аж да паўмільярда даляраў. Па-другое, у свеце пачала развівацца лічбавае тэлебачанне, таму аналагавая карцінка, якую магла перадаваць тэлевежа, неўзабаве стала б непатрэбнай.

**Ягор Марціновіч**



GAZETABY.COM

**Здымкаў знутры сакрэтнага памяшкання мала, але гэтыя адзінкавыя фоткі даюць уяўленне пра маштабы будаўніцтва.**

# Самы дарагі нумар у новым «Прэзідэнт-гатэлі» каштуе $2430 за ноч

Пяцізоркавай **гасцініцай валодае** Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

«Прэзідэнт-гатэль» у цэнтры Мінска адкрываў Аляксандр Лукашэнка. «Добрая, прыстойная гасцініца», — ацаніў ён. Рэканструкцыя будынка савецкай «Кастрычніцкай» насупраць рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы працягвалася два з паловай гады. Грошы на гатэль давялося пазычыць у туркаў, яны ж яго і будавалі.

«Прэзідэнт-гатэль» стаў пяцізоркавым, раней такі статус мелі толькі камунальная «Еўропа» і турэцкая «Краўн Плаза». Есць у ім і прэзідэнцкі нумар — каштуе $2430. Гэта самы дарагі пакой у Беларусі!

За такую цану можна пажыць у нумары плошчай 500 м² з персанальным ліфтам, трыма спальнямі, саўнай з джакузі. А з вокнаў 11-га паверха адкрываецца панарамны від на Мінск. Па словах супрацоўнікаў гатэля, з першых дзён нумар карыстаецца вялікім попытам.

**ЯМ**






Беларусам закідвалі ўсе.

# 6+1

## Зборная Беларусі па хакеі чарговы раз **правалілася**.

Тройка спартыўных функцыянераў (Шамко, Рачкоўскі, Рыжанкоў) загадала ў наступны сезон хакеістам «Дынама» гуляць па формуле «6+1». Гэта тычыцца легіянераў — шэсць палявых і адзін варатар.

Заўзятары сумна жартуюць, што формулу гэтую можна прымяніць і да сёлетняга хакейнага першынства свету. Шэсць паразаў пры адной перамозе. Выніковае чатырнаццатае месца. Апошняе, што дазваляе не вылецець у дывізіён ніжэй.

Паразы былі розныя: «годныя» ад Чэхіі і Швецыі, «бездапаможная» ад Канады, «ганебныя» ад Нарвегіі і Даніі, «на класе» ад Швейцарыі. Перамога ж была «на жылах» у Славеніі.

Беларускі хакей у сістэмным крызісе. І налета ў Мінску можа адбыцца поўнае фіяска. На фоне хакея ў нейкай ступені можна разглядзець эфектыўнасць сённяшняга кіраўніцтва краіны. Грошы ў хакей убухваюцца немалыя, а вынікі драбнеюць з кожным годам.

Данія і Нарвегія некалі ўвогуле не разглядаліся як супернікі. З Швейцарыяй былі на адным узроўні, а сёння «альпійцы» па чарзе выносяць Швецыю, Чэхію і Канаду і выходзяць у плэй-оф адзінай камандай без параз.

Цікава, што за апошнія 15 гадоў у швейцарцаў было ўсяго два трэнеры, у нашых — каля дзясятка.

Журналісты, спецыялісты, балельшчыкі выказваюць шмат прапановаў, як выйсці з гэтай сітуацыі. Аднак ні ў фэдэрацыі, ні вышэй не хочуць нічога слухаць.

**Зміцер Панкавец**

## Эдуард Занкавец: Швейцарцы не мяняюць вектар развіцця ў залежнасці ад надвор'я



**Эдуард Занкавец**

нарадзіўся ў 1969 у Мінску. Гуляў у мінскім «Дынама», омскім «Авангардзе», першынствах Германіі, Даніі, Фінляндыі, ніжэйшых лігах Паўночнай Амерыкі. Дапамагаў Глену Хэнлану ў нацыянальнай зборнай. Ад 2010 да 2011 — галоўны трэнер зборнай Беларусі.

Былы галоўны трэнер Беларусі па хакеі Эдуард Занкавец адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».

**«НН»: Эдуард Канстанцінавіч, наша месца ў сусветным хакеі сапраўды ў раёне 14—15 месцаў?**

**ЭЗ:** Скажам так, калі такія вынікі паказваюцца ўжо не ў першы раз, то можна гаварыць, што мы страцілі свае былыя пазіцыі.

**«НН»: Чаму?**

ЭЗ: Гэта і праз аслабленне нацыянальнага першынства, узровень якога падае штогод. На жаль, узровень гульцоў не дазваляе рашаць сур'ёзныя задачы, як, напрыклад, змяніць ход няўдалага паядынку.

**«НН»: У сённяшняй зборнай пабачылі нейкія светлыя плямы?**

**ЭЗ:** Найперш брамнік Бялінскі. Адгуляў ён вельмі надзейна. Падругое, гэта наша лінія абароны. Яна выклікала пытанні. Аднак справіўся са сваёй задачай нашмат лепей за нападаючых.

**«НН»: Калі б былі лідары, то можна было разлічваць на лепшы вынік?**

**ЭЗ:** У гульнях з такімі камандамі, як Данія, Нарвегія, пры роўнасці шанцаў на перамогу, шмат што вырашае падрыхтоўка ў пэўны дзень, індывідуальнае майстэрства. Калі гаварыць даступна, то добры кісцявы кідок Андрэя Касціцына мог многае вырашыць.

**«НН»: Яшчэ 10 гадоў таму мы былі прыкладна аднаго ўзроўню са Швейцарыяй. Цяпер жа нібыта розныя планеты.**

**ЭЗ:** У 2005 годзе я пачаў працаваць са зборнай. І цяпер параўнайце, колькі за гэты час у нас змянілася не толькі трэнераў, але і вектараў развіцця, і колькі ў швейцарцаў. Тады ўсё стане зразумела. Швейцарцы заточаныя пад мэту, планамерна ішлі да гэтых перамог. У іх не мяняецца стратэгія ў залежнасці ад надвор'я на вуліцы.

**«НН»: На хатнім чэмпіянаце ёсць шанец не зганьбіцца?**

**ЭЗ:** Тэарэтычна, так. Як і згуляць кепска. Хаця што такое «кепска»? Некалі для нас трапіць у «васьмёрку» было кепска. Цяпер жа дзясятае месца — гэта ўжо «добра».

**«НН»: Кажуць, што вялікія грошы сапсавалі нашых хакеістаў.**

**ЭЗ:** Паверце, швейцарцы, што гуляюць у нацыянальным першынстве, атрымліваюць не менш. Я не думаю, што мы станем гуляць лепш, калі зменшым заробкі. Тут праблема не ў сумах, а наколькі правільна яны выкарыстоўваюцца.

**«НН»: Трэнера Скабелку трэба пакідаць ці зноў мяняць?**

**ЭЗ:** *(Смяецца).* Я лічу, што ўсё залежыць ад дамоўленасцяў, на колькі гадоў было вырашана супрацоўнічаць, пры якіх выніках працягваць кантракт. Не толькі трэнер нясе адказнасць за вынік, але і людзі, якія запрашалі яго на працу.

**Гутарыў ЗП**

## Аляксей Бука: Бел-чырвона-белы сцяг не палітычны, а нацыянальны сімвал

Чэмпіянат свету па хакеі быў азмрочаны не толькі кепскімі вынікамі зборнай Беларусі, але інцыдэнтам з бел-чырвона-белым сцягам.

На першай гульні першынства з Чэхіяй група беларусаў разгарнула вялізны нацыянальны штандар на трыбунах. Ён быў добра бачны падчас трансляцыі. Некаму гэта не спадабалася. Ахоўнікі стакгольмскай «Глобен-Арэны» сталі патрабаваць згарнуць сцягі, тлумачачы, што гэта палітычная акцыя.

Арганізатары чэмпіянату нават забаранілі бел-чырвона-белыя сцягі на нейкі час. Аднак пасля акцыі пратэсту пайшлі на кампраміс — дазволі бчб-сцяжкі, але толькі маленькія.

Аляксей Бука з Глыбоччыны быў сярод тых, хто бараніў нацыянальны сцяг.

**«Наша Ніва»: Вы першы раз падтрымлівалі нашых спартсменаў з бел-чырвона-белымі сцягамі?**

**Аляксей Бука:** Другі. Некалі ў Варшаве праходзіў бой паміж нашымі кікбаксёрамі і польскімі. Тады ніякіх канфліктаў ні з паліцыяй, ні з аховай не было. У Полышчы людзі ставяцца з павагай да бел-чырвона-белага сцяга. Ведаюць, што ў Беларусі ён пад забаронай. Пасля баёў размаўлялі са спартсменамі, трэнерамі, яны выказвалі нам падтрымку. Сёлета Анатоль Міхнавец з «Беларускай нацыянальнай памяці» прапанаваў ехаць на чэмпіянат у Швецыю.

**«НН»: Шмат было беларусаў?**

**АБ:** Чацвёра. Але сцягоў было вельмі шмат. «Пагоня» таксама была адна.

**«НН»: У капейку абышлася такая паездка на першынство?**

**АБ:** Білеты на два матчы каштавалі 30 даляраў. Самалёт таксама 30 даляраў. Начавалі ў знаёмых. Харчаванне было даволі дарагім. Але мы бралі ежу з сабой. Толькі некалькі разоў елі ў кавярнях. Яшчэ дарагімі былі квіткі на транспарт да арэны.

**«НН»: Чаму вы ўздымаеце бел-чырвона-белыя сцягі?**

**АБ:** Можа, нехта бачыць у гэтым палітычныя акцыі. Але я лічу гэта не палітычным сімвалам, а нацыянальным, гістарычным. Нельга са сцяга рабіць палітыку. Я прызнаю сёння чырвона-зялёны сцяг як дзяржаўны, але ў мяне няма гонару, калі падымаецца гэты сцяг. Таму і ўздымаю бел-чырвона-белы.

**«НН»: Кіраўнік федэрацыі Яўген Ворсін казаў, што пад бел-чырвона-белым сцягам сталі негры і арабы.**

**АБ:** Так, я недзе чытаў, што гэта была праплачаная акцыя. Людзі проста не ў тэме. Гэта мясцовыя заўзятары сталі на нашу абарону. Ніхто нікому не плаціў, ніхто не атрымліваў гранты, мы прыехалі на першынство за свае сродкі. Важна, што за нас заступіліся шведы. Наступны раз, спадзяюся, такога не паўторыцца.

**«НН»: Здымак, дзе ў Вас вырываюць сцяг, з'явіўся ва ўсіх шведскіх і беларускіх СМІ. Супраць Вас ужывалі сілу?**

**АБ:** Гэта была гульня са Славеніяй. У трэцім перыядзе мы вырашылі разгарнуць сцяг, тады да нас падбегла ахова. Вырывалі з рук, але не, не білі. Мы адмаўляліся аддаваць сцягі, тады нас выштурхалі з арэны.




Ахова не дае Аляксею Буку разгарнуць сцяг.

**«НН»: Гульцы неяк рэагавалі на вас?**

**АБ:** Пасля матча з Чэхіяй адзін з хакеістаў пад'ехаў да нашай трыбуны і падзякаваў за падтрымку, але ён быў толькі адзін.

**«НН»: Хакей — палітычны від спорту ў Беларусі, можа, не трэба яго падтрымліваць?**

**АБ:** Я так не думаю. Мы пашыраем веды пра краіны. Заўзеем не за рэжым, а за краіну.

**Гутарыў ЗП**

**Аляксей Бука**

Нарадзіўся ў 1989 ў вёсцы Валодзькава (Глыбоцкі раён). Навучаецца ў аспірантуры Варшаўскай акадэміі фізвыхавання па спецыяльнасці «турызм».

# «Што було, то було»: бацьку Ірыны Абельскай пры Сталіну асудзілі на 25 гадоў за «антысавецкую дзейнасць»

Працяг са старонкі 2.

### Найлепшы дом — у Пастаялак

Вёска непадалёк ад Бярозы расцягнулася на некалькі кіламетраў, але жыхароў тут няшмат. Засталося не больш за 40 чалавек. Пераважна гэта адзінокія старыя. Ёсць толькі шэсць сем'яў, дзе жывуць дзед з бабай... Многія хаты пустуюць, бо яшчэ ў 1970-я тут жылі больш за 200 чалавек.

Даведаўшыся, што мы шукаем Сцяпана Пастаялку ці хаця б ягоных сваякоў, вяскоўцы кіруюць нас у цагляную хату — найлепшую ў Батарэі. Тут жыве разам з мужам Марыя, сястра Сцяпана. Яна пацвярджае, што трагедыя здарылася менавіта з яе сям'ёй, і з горыччу расказвае пра цяжкі лёс сваіх бацькоў і братоў.

### Трое сваіх і трое чужых

Яе бацька, Мікалай Лукашавіч Пастаялка, нарадзіўся і жыў у Батарэі ад пачатку стагоддзя. «Зямлі ў нас было нямнога, таму бацькі з радасцю запісаліся ў калгас», — узгадвае Марыя.

Мікола падчас Другой сусветнай вайны дайшоў да Германіі, быў двойчы паранены, аднак на гэты факт савецкі суд пасля нават не паглядзеў. Ягоная жонка Ганна была аднагодкай мужа — яны нарадзіліся ў 1903.

Старэйшы Анатоль, сярэдні Сцяпан ды малодшая Марыя былі роднымі дзецьмі. Але, апроч іх, у сям'і гадаваліся яшчэ трое пляменнікаў. У вайну Ганна ўгаварыла немцаў аддаць дзяцей ёй, калі бацькоў малых расстралялі ў кляштары ў Бярозе.



Людміла Пастаялка трапіла ў высокую ўладу.



Украінскія партызаны хадзілі па лясах да сярэдзіны 1950-ых.

### Госці, ад якіх не адмовішся

Бяда прыйшла ў хату Пастаялак у студзені 1952 у выглядзе супрацоўнікаў дзяржбяспекі. «Забралі ўсіх, — узгадвае трагічны год Марыя. — Спачатку арыштавалі старэйшага брата Анатоля. Праз пяць дзён — тату і Сцяпана, а ў сакавіку яшчэ і маму. Была страшэнная завіруха, такая, што машына не магла праехаць. Дык за мамай на конях прыскакалі і забралі».

На свабодзе засталася толькі 14-гадовая Марыя.

Пастаялак, як і жыхароў суседніх вёсак, вінавацілі ў дапамозе партызанам.

У чым была тая дапамога? Хтосьці падтрымліваў падпольшчыкаў з прынцыпу, бо быў супраць савецкай улады і за незалежнасць. Хтосьці проста не рызыкаваў адмаўляць людзям са зброяй.

Чаму савецкія ўлады пакаралі менавіта сям'ю Пастаялкаў і чаму партызаны прыйшлі менавіта да іх? Адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у архівах КДБ. Дай Бог, каб і Сцяпан Пастаялка пакінуў успаміны пра той час.

«Браты вучыліся ў Бярозе ў дзесяцігодцы. Недзе там іх сябры пазнаёмілі з украінцамі, — расказвае Марыя. — І тыя пасля прыйшлі да нас на пару дзён. Мама з татам дрыжэлі, каб ніхто не пабачыў, бо гэта ж верная смерць была б... Пасля гэтых украінцаў не-дзе злавілі. Тыя і выдалі, дзе спыняліся. Не ўсіх, але пра некаторых расказалі. Хлапцоў па вёсках адразу і паарыштоўвалі», — узгадвае яна.

### Хто вінаваты?

«Пакінулі мяне малую адну, толькі цётка трошкі дапамагала. У хаце не засталося нічога — забралі і клуню, і карову, і швейную машынку, — нават праз 60 гадоў не можа стрымаць слёз Марыя. — І гэта ўсё за тое, што ўкраінцы ў нас некалькі дзён пабылі... Яны нават не начавалі, а ўдзень адпачывалі».

«Самостійна Україна», «самостійна Україна»... Каб тыя палітыканты прапалі да таго, як да нас прыйшлі! — плача цётка Марыя — Колькі мы з-за іх намучыліся, і здароўе згубілі... Братоў на допытах білі, каб прызналіся».

«Гэта ўсё рабілі Сталін і Берыя. Колькі відных людзей перастралялі, вучоных...» — разважае яе муж.

А жонка вінаваціць саміх партызанаў. «Усе жылі ціха, спакойна... А яны прыйшлі з ружжамі, вось і нарабілася бяды».



Хата, з якой спецслужбы забралі ўсю сям'ю, цяпер стаіць пустая.

### Раскіданае гняздо

Бацьку адправілі ў канцлагер у Омскую вобласць, ягоную жонку — у Карагандзінскую вобласць. Нават з катаргі яны стараліся дапамагчы дачцэ, якая засталася адна. «Тата прысылаў грошы, а мама збірала пасылкі», — узгадвае Марыя.

Што здарылася з няроднымі дзецьмі? Дарослы з'ехаў у Ленінград, сярэдняга забралі іншыя сваякі, а меншы застаўся на ёй, 14-гадовай... Праз некаторы час малое дзіця давялося аддаць у прытулак. Пасля ён стане вайскоўцам.

### Доўгая дарога дадому

Сталіну застаецца жыць нядоўга, але вызваленне асуджаных 11 вяскоўцаў-палітвязняў расцягваецца на доўгія чатыры гады. Сям'ю Пастаялкаў адпускаюць улетку 1956. Аднак на радзіму вяртаюцца не ўсе.

Старэйшы сын Анатоль, які адбываў свой тэрмін у Ніжне-Ілімску Іркуцкай вобласці, для бяспекі вырашае там і застацца. Тады было памятна, як у сталінскія часы вызваленых вязняў на радзіме арыштоўвалі зноў і зноў. Ён нарадзіўся ў 1930, а перад арыштам паспеў скончыць Міжлескую сярэднюю школу, уступіць у камсамол і папрацаваць бухгалтарам.

У Ніжне-Ілімску Анатоль знайшоў працу, а пасля і ўзяў шлюб. Вяртанне дадому расцягнулася для яго больш чым на 30 гадоў. Памерла жонка-сібірачка, і ён вярнуўся ў Батарэю, пасяліўшыся каля бацькавай хаты. Дзяцей у пары не было. Некалькі гадоў Анатоль пажыў адзін, а пасля ажаніўся з іншай «палітычнай», Марыяй Пухоўскай. У пачатку 1950-х іх абвінавачвалі па адной «антысавецкай» справе.

Лёс Марыі таксама быў гатовым сюжэтам для шматсерыйнай меладрамы. Дзяўчына падчас следства ледзь-ледзь паспела стаць паўналетняй, таму таксама атрымала жорсткі вырак — 25 гадоў. Пасля амністыі вырашыла

**19-гадовага Сцяпана адправілі ў лагер у Нарыльску за «здраду радзіме» »**

застацца ў Казахстане, дзе і адбывала пакаранне. І толькі калі муж памёр, яна пакінула дарослых сына і дачку і паехала на малую радзіму.

Тут яны і вырашылі жыць разам з Анатолем. Калі ён памёр, саслабелая Марыя зноў паехала ў Казахстан — да дзяцей, дый засталася там.

### Што ў абвінавачанні?

Сцяпан на 1952 год скончыў Бярозаўскую сярэднюю школу, уступіў у камсамол і пачаў жыць асобна ад сям'і ў райцэнтры. Судзілі хлопца разам з бацькамі і братам. 19-гадовага юнака адправілі ў канцлагер у Нарыльску.

У ягоным прысудзе пазначаныя артыкулы 63-1 і 76 Крымінальнага кодэкса 1928 года. Першы з іх азначае «здраду радзіме, г. зн. дзеянні, здзейсненыя ... на шкоду ваеннай моцы СССР, яго дзяржаўнай незалежнасці ці недатыкальнасці яго тэрыторыі».

Артыкул 76 мае шырэйшую трактоўку. Ён прадугледжвае ўдзел у арганізацыі ці падрыхтоўцы любых «контррэвалюцыйных» дзеянняў — ад шпіянажу да дапамогі сусветнай буржуазіі.

### Украінская нявеста

Сцяпан вярнуўся ў Беларусь самым першым. Ён пасяліўся ў Брэсце ды пачаў працаваць на «Брэстэнерга». Даслужыўся да кіраўнічых пасад.

Пастаялкі былі рэабілітаваныя 29 ліпеня 1992 года рашэннем прэзідыума Брэсцкага абласнога суда. Тады ўжо згінуў Савецкі Саюз, супраць якога яны і змагаліся ў маладосці.

Марыя расказвае гісторыю кахання Сцяпана з будучай міністаркай. Ягоны сябар вучыўся ў Кіеве. Сцяпан прыехаў да яго ў госці ды пазнаёміўся са студэнткай Кіеўскага медыцынскага інстытута Людмілай. Яна была простай вяскоўкай — нарадзілася на Палтаўшчыне.

### Шлях у міністры

Атрымаўшы адукацыю, у 1964 Людміла пераязджае ў Брэст і становіцца ўчастковым педыятрам у дзіцячай паліклініцы. Праз дзевяць гадоў яе перавялі ў абласную бальніцу. У гэтай установе яна працавала ажно да 2001, дайшоўшы да пасады галоўнага доктара.

Пасля Аляксандр Лукашэнку выклікае Людмілу ў Мінск — кіраваць міністэрствам. Разам з ёй пераязджае і муж, тады ўжо пенсіянер. Пасля смерці жонкі ён застаўся ў сталіцы — там і дзеці, і ўнукі. Але ў Батарэю штогод прыязджае. «Як здароўе дазваляе», — прызнаецца яго сястра.

Марыя дастае альбомы са здымкамі сваякоў. Па дзіўным супадзенні, знаходзяцца фоты ўсіх, апроч Сцяпана. Яшчэ раз паглядзеўшы на здымкі бацькоў і расплакаўшыся, Марыя просіць не друкаваць іх — маўляў, не трэба варушыць набожчыкаў. Страх і праз 60 гадоў не адпускае ахвяраў.

...Мы хацелі даць слова і самому Сцяпану Пастаялку. Аднак і ён вырашыў не ўзгадваць мінулае. На наш званок на мабільны тэлефон ён ветліва, але настойліва прамовіў: «Што було, то було» — ды паклаў слухаўку.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч,**
**Батарэя—Мінск**

**Фотафакт**



**Яроменак у турме зляпіў ружу з хлеба для нявесты**

Уладзімір Яроменак адбыў 15-суткавы арышт на Акрэсціна. На волю ён выйшаў 9 мая. Маладафронтаўца сустракалі 30 чалавек, але хлопца перад гэтым вывезлі ў Ракаў. Таксама ўзялі яго тэлефон, тры разы няправільна ўвялі PIN-code, каб ён не здолеў пазваніць сябрам і разблакаваць у бліжэйшы час сім-карту. За кратамі Уладзь зляпіў ружу з хлеба для сваёй нявесты Валянціны.

**Ірына Арахоўская**

# «Беларускія палкаводцы» — шыкоўны набор плакатаў

Яны вісяць **нават у Генеральным штабе**.

У кнігарнях з'явіўся набор плакатаў «Беларускія палкаводцы і военачальнікі зямлі беларускай» — 28 паштовак фармату А4.

«Ідэя стварэння гэтых плакатаў прыйшла мне падчас службы ў войску, — расказвае стваральнік паштовак падпалкоўнік запасу Віталь Чырвінскі. — У нас ва ўсіх вайсковых установах вісяць партрэты палкаводцаў, але гэта Суvotаў, Аляксандр Неўскі, Нахімаў...»

По словах спадара Чырвінскага, самым складаным быў адбор герояў для плакатаў.

«Я налічыў болей за 250 военачальнікаў, якіх хацелася ўзгадаць».

Спіс персаналій фарміраваўся па некалькіх крытэрыях. Чалавек мусіў нарадзіцца ў Беларусі, мець беларускае паходжанне і ягоная ратная слава мусіла быць звязаная з Беларуссю.

«Напрыклад, Астрожскі нарадзіўся на Валыні, аднак ягоны ўнёсак у беларускую вайсковую справу нельга прапусціць», — кажа спадар Чырвінскі.

«Плакаты паступілі ў продаж, — кажа спадар Чырвінскі. — Да таго ж некаторыя з іх ужо трапілі ў вайсковыя ўстановы. Напрыклад, частка з гэтых плакатаў вісіць у Генеральным штабе на адмысловым стэндзе».

**Юрась Ускоў**




**Набыць плакаты**

ў інтэрнэце можна на сайтах goodcard.by і imbryk.by.

# Анжаліку Агурбаш кінуў казахскі бізнэсмэн?

Не паспела поп-дзіва Агурбаш развесціся з мужам, бізнэсмэнам Мікалаем Агурбашам, як зноў пачала збірацца замуж. Выбраннікам артысткі стаў казахскі рэстаратар Анатоль Пабіяха.

Аднак вяселле, прызначанае на верасень, прыйшлося адкласці: Анжаліка хоча скончыць усе судовыя разбіральніцтвы з былым мужам.

Аднак Мікалай даў шчырае інтэрв'ю, у якім раскрыў інтымныя таямніцы экс-мужа і жонкі. Паводле яго слоў, Пабіяха кінуў Анжаліку: «У мяне ёсць інфармацыя: Пабіяха яе кінуў. Яна выглядае поўнай дурніцай: разбурыла сваё шчасце і каханне».

Агурбаш расказаў, што спявачка спрабавала разбіць не адну сям'ю беларускіх бізнэсмэнаў: «Упэўнены, Анжаліка вернецца, але я ўжо яе не вазьму».

**Сямён Цыбульскі**



Анжаліка і Пабіяха.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Зэкс кіндэр, альбо Бацькава перамога

Незвычайны ўсё ж сёлетні май — спалучыў на караценькім адрэзку Уваскрашэнне Хрыста, Дзень Перамогі і Радаўніцу...

Здаецца, якое ж тут можа быць спалучэнне?

Ці ж можна спалучаць спрадвечныя народныя святы са святам перамогі «расейскіх акупантаў» над нямецкімі, якія, па ўспамінах некаторых бабулек, ратавалі беларускіх дзяцей ад голаду, а калі што палілі ці каго забівалі, дык вінаватыя ў тым партызаны з іх злачыннымі правакацыямі...

Вось так: перагледзела бабулька Нюрнбергскі працэс. Мо памыліліся суддзі. Мо памыліўся месяц май, спалучыў...

Але сёння, калі пішу гэтыя нататкі, Радаўніца, зварот да продкаў. Звярнуся і я.

...У жніўні 1944-га маці піша ўжо з Мінска бацьку на фронт: «...Вялікае гора не прамінула і нас — немцы па-зверску закатавалі Веру... Вера ўвесь час была ў партызанаў сувязной. 24 чэрвеня 1944 яе схапілі, а 27-га немцаў у гэтым раёне ўжо не было. Не дажыла толькі 3 дні... Яе жорстка збілі, а потым нацкавалі сабак, якія разарвалі ёй цела... Потым зламалі рукі і, не дамогшыся ад яе ані слова, укрыжавалі на сцяне хлява...»

Вера Міснік — пляменніца маці, мая стрыечная сястра. Вось што па просьбе Музея гісторыі Айчыннай вайны піша пра Веру яе маці, цётка Вольга: «...У маёй сям'і не было камуністаў... Аднак клапатлівыя адносіны да ўсяго, што звязана з паняццем «Радзіма», непасрэдна перадаваліся дзецям. Праўда, гэта не было так відавочна, як праявілася ў гады вайны... Сыны пайшлі на фронт. У тыле ворага засталася Вера з маленечкай дачушкай. Мабыць, яна здолела б эвакуіравацца, але, як стала пазней вядома, пашкадавала кідаць бездапаможных старых бацькоў мужа, што ваяваў пад Ленінградам...»

Так, яны не былі камуністамі, Вера і Апанас, маладыя настаўнікі з Сямёнавіч пад Уздой, дзе пра іх памятаюць дасюль. Што ж вымусіла іх, кроўных беларусаў, ваяваць супраць немцаў? Толькі савецкае выхаванне?

Што ўвогуле вымушала савецкіх беларусаў ваяваць супраць немцаў?

Страх перад партызанамі і дыверсантамі НКВД?..

Вера ў камунізм з бальшавізмам ды ў калгасны лад?

Ці, можа, нешта большае за смурод сталіншчыны?

Ці, можа, усё ж «клапатлівыя адносіны да Радзімы»?

Зразумелае жаданне праз пераадоленне крамлёўска-лукашэнкаўскіх спекуляцый і спробаў адмыць сталінізм дамагчыся ўсёй праўды пра вайну, бо не ўсёй праўда не бывае. Знойдзецца, безумоўна, ва ўсёй праўдзе ганебнае месца і партызанскаму, розных колераў, рабаўніцтву, і нямецкім булкам з цукеркамі, і злачынствам НКВД, і трагедыі антысавецкага супраціву...

## Немцы з балючай рашучасцю вытравілі з сябе нацызм. І менавіта таму яны пераможцы

Аднаго не вытрымае ўся праўда — адкрытага ці прыхаванага, што яшчэ горш, апраўдання нацызму тым, што ён быццам змагаўся з камунізмам за незалежную Беларусь.

У згаданым вышэй лісце да бацькі маці піша і пра Фіру Рахманчык: «...Спачатку на яе вачах схапілі дзіця за ногі і аб кузаў разбілі галаву. Фіра адразу згубіла розум, і яе прыстрэлілі...»

Такая вось барацьба.

Я не ведаю, хто яна, Фіра Рахманчык. Мабыць, даваенная знаёмая бацькоў. Нехта з сучасных самадзейных тлумачальнікаў гістарычных падзей мусіць думаць, што ў немцаў проста не хапіла для ейнага дзіцяці цукерак і булак. Але я, дзякуй Богу, яшчэ пры розуме і мушу думаць, што калі б не тыя эканомныя немцы, жылі б сёння на Зямлі дзіцятка Фіры Рахманчык, ягоныя дзеці і ўнукі. Разам з мільёнамі загубленых немцамі ды іх памагатымі яўрэйскіх дзяцей...

Я свядома пішу «немцы», а не фашысты ці нацысты. Фашыстаў і нацыстаў пакараў Нюрнберг. Немцы пакаралі сябе самі — прынялі ў душу і ўзвалілі на плечы ўвесь цяжар гістарычнай адказнасці за тое, што дазволілі нацызму ачмурыць і атруціць сябе, за ўдзел у неверагодных злачынствах. З балючай рашучасцю вытравілі яго з сябе.

І менавіта таму яны пераможцы. А не толькі таму, што ў іх больш цукерак і булак...

Дык ці памыліўся май, спалучыўшы на караценькім адрэзку святочных дзён Уваскрашэнне Хрыста, Перамогу над нацызмам і Радаўніцу? Адказ я знайшоў ва ўспаміне пра бацьку.

Як і ўсе сапраўдныя франтавікі, ён ніколі не расказваў пра тое, што вытрымаў на вайне. Толькі аднойчы распавёў, як недзе пад Кёнігсбергам падчас атакі перад ім апынуўся пажылы немец, зваліўся на спіну і, узняўшы ці то рукі, ці то шэсць пальцаў, адчайна заенчыў: «Зэкс кіндэр! Зэкс кіндэр!» «Ты забіў яго?» — «Не, пабег далей...» — «А калі б ён стрэліў у спіну?»

Бацька моўчкі пацінуў плячыма...

Нешта тут было па-за межамі сэнсу, дзеля якога вядзецца вайна, калі ўвогуле можна шукаць у вайне сэнс. Тым больш, што на той час заклік «Забі немца!» ужо ўзбудзіў усё савецкае войска. Але я адчуў, як бацька ціха ганарыцца тым, што не забіў немца.

Быццам здабыў больш значную за тое, каб забіць ворага, перамогу...

# Муза Заслонава: з’язджаю на Кубу назаўсёды!

Дачка Канстанціна Заслонава расказвае пра свайго бацьку, прадказанне Вангі і свой **раман з афганскім прынцам**.

Дачка Героя Савецкага Саюза жыве ў аднапакаёўцы ў Вілейцы. Пераехала сюды, каб напісаць кнігу пра сваю сям’ю. Прадала кватэру ў Мінску, каб на розніцу ў цэнах купіць камп’ютар і жыць: пенсіі на гэта не хапала. Тры гады пісала ўспаміны, пасля столькі ж спрабавала выдаць. Урэшце дапамаглі аршанскія чыгуначнікі: кніга «Фамілія» выйшла.



Канстанцін і Раіса Заслонавы ў дзень вяселля.

Муза так і не выйшла замуж.

**Заслонаў быў беспартыйны і ўвесь час жыў на мяжы арышту**

### Лынькоў прыдумаў усё, апроч прозвішча

Пра Канстанціна Заслонава пісалі шмат. Але не ўсё было праўдай. Міхась Лынькоў, напрыклад, у рамане «Векапомныя дні» ад рэальнай асобы пакінуў выключна прозвішча — астатняе памастацку прыдумаў.

«Прыходзіў да нас пасля, выбачаўся. Тлумачыў, што атрымаў заданне партыі ў сціслыя тэрміны напісаць раман пра народнага героя: часу не было высвятляць справы сямейныя», — успамінае Муза Канстанцінаўна. Лынькоў выдумаў каханне Заслонава да настаўніцы. І сапраўдная жонка Раіса, прачытаўшы, засумнявалася: а раптам нешта і сапраўды было?

**«НН»: А падставы для рэўнасці бацька даваў?**

**МЗ:** Не. Так шчыраваў на працы, што не было часу на гулі. Ён баяўся беспартыйны і ўвесь час жыў на мяжы арышту. Яго не прымалі ў партыю, паколькі бацька быў раскулачаны. І яму трэба было працаваць як праклятаму, каб давесці сваю адданасць. Бо пры любой аварыі на чыгунцы, а іх было шмат, адразу дапытвалі беспартыйных.

А ў Навасібірску быў выпадак, калі тату ледзь не забілі. Ён вылічыў бандытаў, якія хлебныя эшалоны рабавалі. Іх пасадзілі, але, відаць, не ўсіх — і бацьку вырашылі адпомсціць. Калі позна вяртаўся з заняткаў па павышэнні кваліфікацыі, яму некалькі разоў усадзілі фінку пад сэрца. На шчасце, у кішэні на грудзях ляжалі нейкія чарцяжы, брашуры. Да сэрца фінка не дастала. Пасля гэтага яго перавялі на павышэнне ў Віцебск.

### Дыверсант-разведчык

Затым была праца ў Рaслаўлі, Оршы. З Оршы меркавалі пераехаць у Ленінград. Жонка з дочкамі паехала, Заслонаў застаўся чакаць афіцыйнага выкліку — звольніцца самому было немагчыма. І тут пачалася вайна.

Заслонаў эвакуіраваўся ў Маскву. Нават сямейнікі не ведалі, што ён яшчэ перад вайной скончыў школу разведчыкаў-дыверсантаў. Яго з Масквы вярнулі ў Беларусь. Быў у партызанах, пасля ўладкаваўся ў дэпо, пад выглядам вугалю падкладаў бомбы ў паравозы. Калі арышт стаў непазбежным, вярнуўся ў партызаны...

«Пра смерць таты мы даведаліся выпадкова. Былі ў эвакуацыі ў Бугуруслане (Арэнбургская вобласць). І мама аднойчы, у пачатку 1943, забегае і крычыць: «Пра нашага тату ў газеце напісалі!» Ёй перадалі нумар «Известий» з нарысам Эдуарда Віленскага. Нарыс заканчваўся апісаннем смерці і пахавання бацькі...

Маме цяжка было з дзвюма дочкамі. У вайну мы пераехалі да яе брата ў Алма-Ату, пасля адправіліся ў Выбарг... У галаву нават не прыходзіла паехаць у Беларусь. Тым больш, бацька быў рускім — з-пад Цверы.

Калі адмянілі карткі, пачалася галадуха. А мама шыла добра. І напісала дзядзьку Мішу Пілайнену, у якога ў Ленінградзе пакінулі свае рэчы, каб ён выслаў нашую швейную машынку. А ён адказаў, каб мы хутчэй у Беларусь прыязджалі — нас шукаюць.

### «Жонка Заслонава? Гані!»

«Дзядзя Міша Пілайнен настаяў, каб мама схадзіла да Васіля Казлова, старшыні прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. У прыёмнай яна пачула, як сакратарка кажа: «Прыйшла жонка Заслонава». — «Як, яшчэ адна? Гані, надакучылі!» Мама расплакалася. А сакратарка кажа: «Не, гэтая сапраўдная». — «Сапраўдную я пазнаю». Казлоў выйшаў і абняў: «Слухай, якія да мяне толькі ні прыходзілі, выдавалі сябе за жонак Заслонава». І адразу пастанавілі будаваць нам домік. Як кампенсацыю, што нас так пакрыўдзілі з ілжэсем’ямі, Казлоў узяў маму на працу сакратаркай.

### Жыла ў татавым музеі

«Я пасля школы хацела паступаць ва Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі — марыла стаць актрысай. Але мама не дазволіла. У майго айчыма Івана Сяргеевіча дачка спрабавала паступіць туды ж. Але не прайшла, а бацьку паведаміла, што паступіла і прасіла высылаць грошы. І вяла разгульны лад жыцця. Айчым вырашыў, што і я так буду рабіць. Пайшла на журналістыку ў БДУ. А ўжо другі дыплом я атрымала ў Інстытуце кінематаграфіі — кінажурналістыка.

Пасля БДУ папрасіла, каб мяне скіравалі на працу ў музей Заслонава ў Оршу. І жыла ў музеі. Толькі месяцы тры і вытрывала: мне падабалася працаваць з людзьмі, а там даводзілася сядзець за паперкамі. І неяк уначы я прачнулася, падышла да татавага партрэта і выбачылася, што надумала пакінуць музей. Але дала клятву, што створу пра яго штосьці.

**«НН»: У кіно рэалізаваліся?**

**МЗ:** Мо пяцьдзясят дакументальных фільмаў зняла. Але гэта кароткаметражныя стужкі. Я гаварусь фільмам «Бацька» пра свайго тату. Я яго доўга прабівала, а пасля мяне «білі». У 1972 годзе быў адыход ад традыцый. Нехта нават казаў, што я прынізіла свайго тату.

### Індыйскі рэжысёр і прынц афганскі

«У 1970-я мяне запрасілі да сябе балгарскія сябры. Мы ездзілі па ўсёй краіне, нават да сляпой празорцы Вангі. Нам дапамаглі трапіць да яе без чаргі. У невялікім мястэчку Петрыч, на мяжы з Грэцыяй, — цэлы палявы лагер. У «жывой» чарзе стаялі па некалькі сутак, начавалі ў палатках, ежу гатавалі на вогнішчы.

Ёй перад сустрэчай патлумачылі, хто я. Яна кажа: усё ў цябе будзе добра, будзеш мець грошы, кватэру, машыну, фільмы будзеш здымаць дома і за мяжой, але побач нікога не бачу — адна засўёды будзеш. Апошняе толькі і збылося...

**«НН»: Але ж раманы былі?**

**МЗ:** Калі вучылася ў БДУ, мне здавалася, што хлопцы мяне не заўважаюць. Я насіла акуляры — тады гэта лічылася ледзь не інваліднасцю. Пазней мой аднакурснік Іван Пташнікаў (са мной вучыліся таксама Іван Чыгрынаў і Вячаслаў Адамчык) казаў, што яны да мяне заляцаліся, а я была фанабэрыстай, маўляў, не адказвала ім. А ў мяне склаўся комплекс, што я непрыгожая.

Адзін раман быў сур’ёзны. Парыкшат Сахні з Індыі... Мы разам вучыліся ў ВГІКу. Мяне папрасілі пазаймацца з Парыкшатам расейскай мовай. І я закахалася. Наш інстытут быў прагрэсіўным, не асуджаў, калі нехта сустракаўся з замежнікам. Каб паказаць сваё каханне, я аднаго разу цыгарэтай тройчы прыпаліла далонь левай рукі. Ён зрабіў тое самае. Парыкшат быў першым чалавекам, які сказаў, што я прыгожая. Даў адчуць, што мяне можна кахаць.

Але бацька, калі пасылаў яго ў Маскву, папярэдзіў, каб не заводзіў раманы з мясцовымі дзяўчатамі. У бацькі было хворае сэрца, і Парыкшат абяцаў за канікулы яго падрыхтаваць да вяселля... Толькі пасля канікулаў мы нават не віталіся. Гэта была здрада.

Я ў інтэрнэце чытала, што Парыкшат стаў рэжысёрам у Балівудзе... Гэта, напэўна, маё першае і апошняе каханне.

**«НН»: А раман з прынцам Афганістана?**

**МЗ:** Так, Абдула! Але гэта было неяк несур’ёзна. У тыя часы прынц не лічыўся чымсьці адметным, наадварот... Афганцы звычайна былі такімі неакуратнымі. А Абдула быў іншым, меў доўгія музычныя пальцы. Прыходзіў да нас у інтэрнат і прыносіў цікавыя пласцінкі. Я падабалася яму. Але ён папярэдзіў, што аджаніцца не зможа — дома заручаны. Прапанаваў купіць кватэру ў Маскве і жыць разам. Я абурылася: як савецкай жанчыне можна прапаноўваць стаць наложніцай!

### Куба — любоў мая

«Праз пару месяцаў збіраюся паляцець назаўсёды на Кубу. Я лічу, што выканала сваю клятву: зняла фільм пра тату, напісала кнігу. Цяпер магу дазволіць сабе і нешта несур’ёзнае. Задумала пісаць раман пра Атлантыду, і патрэбны антураж. Калі ўдасца напісаць — выдатна. А не — нічога страшнага: пайду ў пасольства і папрашу вярнуць мяне назад. Як і мама, пайду ў дом састарэлых. Мая мама дажывала ў інтэрнаце ў Ждановічах, ёй падабалася там. У яе і кавалеры там былі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Муза Заслонава**

Нар. у 1933 у Хабараўскім краі. Скончыла журфак БДУ (1957) і ВГІК (Масква) (1966). Рэжысёр-дакументаліст. Зняла фільмы «Салдаты крэпасці», «Бацька», «Школьныя акварэлі», «Гарачы подых Поўначы». Выдала кнігу ўспамінаў «Фамілія» (Мінск, 2011).

**Канстанцін Заслонаў**

(псеўд. Дзядзька Косця) — Герой Савецкага Саюза (пасмяротна). Нар. у 1910 у г. Асташкаў Цвярской вобласці. Працаваў на чыгунцы ў Расіі і Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі ўладкаваўся ў аршанскае дэпо. За тры месяцы падарваў 93 паравозы. Пад пагрозай арышту сышоў у партызаны. Загінуў у 1942 у баі каля в. Купаваць Сенненскага раёна. Перапахаваны ў Оршы.

# Адзін вечар і тры абарваныя лёсы

Маладая кампанія **згарэла ў аўто** пасля аварыі.

За хвіліну да трагедыі кіроўца высадзіў з машыны сваю дзяўчыну, а сяброўку не паспеў.

Кампанія моладзі ноччу 10 мая вярталася ў Баранавічы з вясковай дыскатэкі. Па дарозе яны заехалі ў вёску Савічы, каб правесці дзяўчат. Адну высадзілі, а 20-гадовую Таню не давезлі да дома лічаныя метры. Гэта было за дзесяць хвілін да поўначы. «Фальксваген-Вента» вылецеў на ўзбочыну і ўрэзаўся ў дрэва ў самой вёсцы. Ад удару аўто выбухнула — у ім стаяў газавы бак — і загарэлася.

«Дзіма забіраў сваю дзяўчыну і найлепшую сяброўку Таню з Савічаў, каб паехаць на дыскатэку ў вёску Вольна. І назад іх падвозіў, калі раптам разбіліся. Каханую паспеў высадзіць, а Таня загінула фактычна перад самым домам», — расказала сяброўка загінулых Воля.

Мяркуецца, што 20-гадовы Дзмітрый перавысіў хуткасць і не ўтрымаў аўто на дарозе. Ён толькі летась атрымаў правы.

Дзмітрый і 18-гадовы Ілья, што сядзеў спераду, загінулі імгненна.


Дзмітрый.


Таццяна.


Ілья.

Таццяна сканала ў полымі — нікога не аказалася побач, каб выцягнуць яе з пылаючага аўто.

«Яны ўсе добрымі былі, жыццярадаснымі людзьмі. Дзіма заўсёды ішоў насустрач, калі камусьці патрэбная была дапамога. Калі я ездзіла з ім на машыне, ён кіраваўся правіламі, не перавышаў хуткасці. Яго ўсе любілі, з ім кантактавалі, ён быў не канфліктнай асобай. Ілья заўсёды ўсміхаўся — ніколі не бачыла яго ў кепскім настроі. Яны ўсе запомніліся з добрага боку. Няма слоў...» — падсумавала Воля.

**Сяргей Макарэвіч**

**Сеў за смерць сяброўкі**

Студэнта з Гродна асудзілі на 3,5 года калоніі за аварыю, у якую ён трапіў на сваім Opel Corsa. У чэрвені летась кіроўца разам з аднакурснікамі адпраўляўся адзначаць канец сесіі. Каля в. Каробчыцы на высокай хуткасці хлопец не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў сустрэчнае «Рэно». 18-гадовая дзяўчына загінула, кіроўца і пасажыры атрымалі розныя траўмы. Правы хлопец, між іншым, атрымаў менш за месяц да здарэння.

**Вышук**



АУС Ленінскага раёна Гродна шукае Іскандэрава Наіла Мусадык-аглы, 1974 года нараджэння. Мужчына абвінавачваецца ў нанясенні цялесных пашкоджанняў, небяспечных для жыцця.
Хто ведае месцазнаходжанне абвінавачанага, тэлефанаваць па (029) 788-59-48 альбо 102.



**Фёдар Навіцкі** расшукваецца па абвінавачванні ў крадзяжы. Прыкметы: на выгляд 45—50 гадоў, хударлявы, рост 165—170 см, носіць вусы.
Хто ведае месцазнаходжанне абвінавачанага, тэлефануйце ў Кіраўскі РАУС на нумары: (02237) 2-42-27, (044) 757-85-33.



Фрунзенскае РУУС Мінска шукае **Галіну Ярук**, 1965 года нараджэння. 15 снежня яна пайшла з дому, і да гэтага часу пра яе нічога не вядома. Не выключана, што яна сышла наўмысна праз цяжкую стадыю хваробы. Прыкметы: рост 160—174 см, сярэдняга целаскладу, вочы карыя, валасы сівыя, кароткія. Маецца радзімая пляма на грудзях крыху ніжэй шыі. Была апранута: шэрая шапка, пухавік фіялетава-шэрага колеру, чорныя штаны, кофта леапардавага колеру, чорныя боты.
Хто ведае месцазнаходжанне жанчыны, тэлефанаваць на (017) 213-08-32.

# Прыватная медыцына пасля смерці Юліі Кубаравай

**Працяг са старонкі 4.**

### Любая аперацыя — рызыка

Алег Стасевіч, вядомы ў Мінску пластычны хірург і сакратар Таварыства пластычнай хірургіі, не наважваецца каментаваць сітуацыю, пакуль няма канчатковых высноваў камісіі.

«Пры такіх сітуацыях, няважна дзе здараецца такое, у дзяржаўнай ці камерцыйнай лякарні, ствараецца камісія. Потым скліваецца канферэнцыя, аналізуецца сітуацыя: што за пацыент, як ён рыхтаваўся да аперацыі, што рабілі на аперацыі — менавіта так, пакрокава. Потым робіцца нейкая выснова, а пакуль што ёсць толькі эмоцыі», — дадае Стасевіч.

Паводле звестак Таварыства пластычнай хірургіі, у Беларусі выконваецца да 5 тысяч пластычных аперацый штогод, і іх папулярнасць расце. Прыблізна кожны сёмы кліент клінік эстэтычнай хірургіі жадае змяніць форму носа. Кошт рынапластыкі (аперацыі на носе) — 7—8 мільёнаў рублёў.

Паводле некаторых звестак, аперацыя Кубаравай магла каштаваць каля 17 мільёнаў рублёў. Ёй адначасова правілі пярэгародку і паляпшалі форму носа.

Смяротныя зыходы ў пластычнай хірургіі — з'ява рэдкая, аднак выключыць яе цалкам немагчыма. За апошнія дзесяць год у Беларусі вядома ўсяго пра некалькі такіх выпадкаў.

Імавернасць памерці пасля пластычнай хірургіі такая ж, як захварэць на рак лёгкіх пасля адной выпаленай цыгарэты. «Але калі ў выпадку з цыгарэтай мы маем справу з выпадковасцю ў чыстым выглядзе, то калі мы гаворым пра хірургію — любую — ёсць яшчэ чалавечы фактар», — дадае хірург.

Перад тым, як легчы пад нож хірурга, пацыент падпісвае дамову, гэта значыць, дае так званую «інфармаваную згоду» на аперацыю. У дамове прапісваюцца магчымыя наступствы, у тым ліку і самыя трагічныя.

У Беларусі каля паловы кліентаў клінік эстэтычнай хірургіі — замежнікі.

А значыць, нашым спецыялістам давяраюць, дый цэны ў нас ніжэйшыя, чым, напрыклад, у суседзяў, кажа Стасевіч.

У выпадку калі версія з няспраўнасцю апарата, што адпрацаваў свой рэсурс, пацвердзіцца, гэта можа пацягнуць самыя непрыемныя наступствы для клінікі.

### Чалавек-сонейка

Юлія вырасла ў Гродне. Яна была адзінай дачкой у бацькоў. І яны не пашкадавалі для яе нятанную аперацыю ў прыватным «Экамедсэрвісе».

Юля два гады таму скончыла факультэт візуальнага дызайну і медыя ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. З Вільні вярнулася дадому. Працавала навуковым супрацоўнікам Гродзенскай выстаўнай залы, а летась уладкавалася дызайнерам у «Кронан Парк Гатэлі».

«Мы разам вучыліся яшчэ ў Каледжы мастацтваў — толькі на розных курсах, — расказвае сяброўка Наташа. — А паступалі ў Акадэмію мастацтваў у адзін год. Юля паралельна спрабавала прайсці і ў ЕГУ».

Юлія заўжды добра малявала. ««Мне яна запомніцца вясёлай, шчырай, эмацыйнай — такі чалавек-сонейка. Яна атрымала ў ЕГУ ступень бакалаўра, паступіла на завочную магістратуру. Але праз паўгода сышла: яе больш вабіла праца», — працягвае іншая сяброўка, Марта.

### «Небяспечным для пацыента»

Разам з разборам канкрэтнага выпадку Лячэбна-кантрольная рада Міндзароўя правяла праверку 25 прыватных медыцынскіх цэнтраў. Яе вынікі аказаліся не менш скандальнымі. Высветлілася, наколькі нядбайна працуюць у прыватных клініках: у шэрагу адсутнічаюць умовы для правядзення анестэзіі, праверкі спраўнасці абсталявання не праводзяцца, апараты недакамплектаваныя. І ўсё гэта працягвалася гадамі.

У выніку міністэрства прыпыніла дзейнасць ліцэнзій цэнтрам, у якіх «правядзенне аперацый ва ўмовах агульнай анестэзіі з'яўляецца небяспечным для пацыента». Такімі былі прызнаныя не толькі «Экамедсэрвіс», але і «Грандмедыка», «Медэксперт», «Дзеля здароўя», «Валерэ», «Медарт», «ТрансЭнергаОйл».

У шэрагу цэнтраў ліцэнзіі не забралі, але забаранілі правядзенне анестэзіі да выпраўлення хібаў. Гэта «Антэс Мед», «Белеўрамед-Уздым», «КМКМЕД», «Эдаранмедыкал», «Тэра Медыка», «Канфідэнс-Сэрвіс», «Медрэкпласт».

### Цэхі, а не клінікі

На думку сталічнага лекара, які азнаёміўся з вынікамі праверак Міндзароўя, названыя не ўсе вінаватыя. Забыліся пра тых, хто дапусціў падобныя парушэнні.

«Абсталяванне адсутнічала альбо было няспраўным... Але паўстае пытанне, ці было яно ўвогуле пры атрыманні медцэнтрамі ліцэнзіі? У адным з пералічаных цэнтраў я бываў некалькі разоў у якасці пацыента. І ў ім дакладна ніколі не было наркознага апарата. Выходзіць, гэтыя клінікі альбо падманвалі Міндзароўя — часова прывозілі абсталяванне ці на паперах паказвалі яго наяўнасць — альбо міністэрства халатна выдавала ліцэнзіі. А яшчэ ж праводзіліся праверкі, пры якіх, як выглядае, нікога не цікавілі такія хібы».

Сапраўды, не маглі ж за апошні год клінікі раптоўна страціць абсталяванне: прадаць яго альбо выкінуць.

«З дакументаў праверкі вынікае, што гэта напаўлегальныя цэнтры, якія працавалі ледзь не ў падвалах — такія «цэхі па разборцы людзей на органы». І да Міністэрства аховы здароўя нібыта няма прэтэнзій. А хай бы паглядзелі, хто з афіцыйных асобаў выдаваў ліцэнзіі і праводзіў праверкі», — падводзіць рысу медык, які працуе ў дзяржаўнай клінічнай бальніцы.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

**Згвалтаваў і зьмітаваў суіцыд**

На Магілёўшчыне 20-гадовы хлопец падазраецца ў згвалтаванні сваёй малодшай сястры. Каб задаволіць юр, ён спачатку прыдушыў 12-гадовую дзяўчынку, каб тая страціла прытомнасць. А затым парэзаў ёй вены — хацеў выставіць як самагубства. На шчасце, школьніцу выратавалі, і яна расказала пра ўсё следчым.

**Забіла мужа, а затым сябе**

Целы слонімцаў знайшлі на сямейным лецішчы ў в. Вялікая Кракотка. Следчыя ўстанавілі, што жонка рассекла галаву мужу. А калі жанчына зразумела, што той сканаў, сама засілілася.

**«Разувалі» чужыя аўто**

Трое вынаходлівых мінчукоў рашылі атрымаць дадатковы заробак. Але дадумаліся толькі да крадзяжоў з гаражоў. Выносілі тое, што маглі самі падняць — колы і інструмент. А калі меркавалася сарваць буйны куш, на пракат бралі грузавік. Крадзенае звозілі на лецішча ў Заслаўе. У выніку з 25 гаражоў у Мінску і раёне «падняли» рэчаў на 100 млн рублёў.

**Патанула дзіця**

Бацькі заняліся пасадкай бульбы ў в. Мірнае Крычаўскага раёна, а двухгадовага сына пакінулі з бабуляй. Пакуль жанчына адлучылася, хлопчык забег у сажалку. 60-сантыметровай глыбіні хапіла, каб дзіця патанула.

**КМ**

# Душа народа

Сапраўдныя **беларускія сімвалы**.

### Высакародны звычай

Герб «Пагоня» — вяяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці.

У якасці герба Вялікага Княства Літоўскага «Пагоню» пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII стагоддзя. Сярэднявечная беларуская дзяржава імкнулася, у традыцыях рыцарскай Еўропы, займець герб.

Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай нашых земляў. Пасля налёту ворагаў усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных у палон суайчыннікаў.

У часы вялікага князя Ягайлы (XIV ст.) на шчыце «Пагоні» з'явіўся шасціканцовы крыж — знак венгерскіх каралёў. Бо вялікі князь ажаніўся з Ядзвігай, польскай каралеўнай венгерскага паходжання. Знак той нагадваў здаўна вядомы нашым продкам Ярылаў крыж — сімвал бога сонца і ўрадлівасці.

Царква была схільная лічыць «Пагоню» выявай святога Юр'я, нябеснага апекуна Беларусі. Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дакументы ВКЛ, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў».

«Пагоня» была на сцягах ВКЛ ва ўсіх вырашальных бітвах — ад Грунвальда да Оршы.

Пасля «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу.

### Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

У XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў. Яна трапіла і на герб Расійскай імперыі.



**Сяргей Каваленка**

Нар. у 1975. Сябра КХП-БНФ. 7 студзеня 2010 вывесіў нацыянальны сцяг на навагоднія яліне ў цэнтры Віцебска. Асуджаны на тры гады ўмоўна. У канцы снежня 2011 зноў арыштаваны і абвінавачаны ў парушэнні рэжыму адбыцця пакарання. За кратамі трымаў сухую галадоўку, ажно яго пачалі гвалтоўна карміць. Вызвалены ў верасні 2012.



**1992. «Пагоня» на першых беларускіх грошах.**

Пячатку з «Пагоняй» меў і Кастусь Каліноўскі — начальнік паўстання 1863.

У пачатку XX стагоддзя Максім Багдановіч прысвяціў гербу пранікнёны патрыятычны верш:

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць…
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

### Новы канон «Пагоні»

У 1918 «Пагоня» была дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы.

Калі ў канцы 1980-х зноў разгарнулася барацьба за незалежнасць Беларусі, «Пагоня» з'явілася на падпольных улётках і першых незалежных газетах. Харугвы з ёй неслі на чале шэсцяў. З'явіліся новыя карціны і песні пра яе.

У 1991 дзяржаўны статус «Пагоні» быў адноўлены. Выдатныя мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі і Леў Талбузін выпрацавалі для яе новы канон. Яны надалі шасціканцоваму крыжу на шчыце выгляд Крыжа Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі. Вяяр у цяжкіх даспехах на магутным кані быццам прыскакаў з грунвальдскіх часоў. «Пагоня» была на грошах незалежнай Беларусі і аўтамабільных нумарах. На «Пагоні» прысягала беларускае войска. Яна ўпрыгожвала тэкст Канстытуцыі і трыбуну, на якой прысягаў прэзідэнт.

### Дзеці хлусні

Аднак у 1995 Лукашэнка, каб атрымаць падтрымку і грошы Расіі, узяў курс на русіфікацыю.

У атмасферы тэрору быў абвешчаны «рэферэндум». Сярод пытанняў былі змена дзяржаўнай сімволікі і ўвядзенне расійскай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Каб матываваць гэтую змену, рэжысёр Юрый Азаронак зняў фільм «Дзеці хлусні», у якім даводзіў, што «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг... фашысцкія, бо беларусы іх выкарыстоўвалі ў часы нямецкай акупацыі. Тое, што гісторыя «Пагоні» вымяраецца стагоддзямі, фільм замоўчваў.

Немцы, шведы, украінцы, літоўцы — усе трымаюцца нацыянальнай сімволікі і будуюць нацыянальныя дзяржавы. Ва ўсёй Еўропе толькі Беларусь пагналася за халяўнымі расійскімі грашыма. Гэта, бадай, самая ганебная пагоня ў беларускай гісторыі.

Але «Пагоня» застаецца прывабным і пазітыўным сімвалам. Значкамі з ёй карыстаецца інтэлігенцыя, моладзь. Многія маюць нацыянальныя сімвалы на аватарках у сацыяльных сетках.

Налепкі з «Пагоняй» можна пабачыць на машынах. Бел-чырвона-белыя сцягі вісяць у тысячах кватэр. Вялізныя нацыянальныя штандары заўзятары разгортваюць падчас міжнародных спаборніцтваў, у якіх бяруць удзел беларускія каманды.

### Бел-чырвона-белы сцяг

Ён маладзейшы за сівую «Пагоню». Хоць беларусы здаўна шанавалі спалучэнне белага і чырвонага колераў, бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў



«Пагоня» на барэльефах Плошчы Дзяржаўнага сцяга.

Сяргей Гудилин

**«Пагоні» 700 гадоў, а чырвона-зялёны сцяг — каланіяльны**



...Віцень пачаў княжыць над Літвою, устанавіў сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячатку: рыцар збройны на кані з мячом, які цяпер называюць «Пагоня».

**Густынаўскі летапіс**

у 1917 Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Да яго, маладога архітэктара, з просьбай зрабіць эскіз нацыянальнага сцяга звярнуліся беларуская арганізацыі Пецярбурга. «Беларусы [даўней] лічылі сваім дзяржаўным сцягам белую Пагоню на чырвоным полі, — пісаў ва ўспамінах Дуж-Душэўскі. — Рух за незалежнасць хацеў стварыць сабе сцяг больш адрозны ад герба, як было ў іншых, дзяржаўных народаў».

### Усім да душы

Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу. А 12 сакавіка ў Мінску адбылося масавае свята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай, каб пазнаваць сваіх.

У снежні 1917 у Мінску падчас Усебеларускага з'езда бел-чырвона-белы сцяг аднадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён усім прыйшоўся да душы: светлы, зыркі і непаўторны.

Ён стаў дзяржаўным сцягам БНР.

«Штандар наш бел-чырвона-белы» згадваецца ў адным з беларускіх гімнаў — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», напісаным Макарам Краўцовым у 1919-м.

За саветамі ж сцяг быў забаронены. За яго выяву можна было страціць працу, а то і жыццё. Тады ж чырвоны пас на сцягу набыў новае тлумачэнне — кроў, пралітая за айчыну.

### Міроны

Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» — сімвалы змагання беларусаў за свабоду. З нацыянальным сцягам звязаная легендарная постаць Мірона — невядомага, які ўздымае сцягі на самых высокіх і небяспечных пунктах. «Міронам» ён падпісваўся ў цыдулках, прымацаваных да штандараў. У рэальнасці такіх Міронаў па ўсёй краіне дзясяткі, калі не сотні.

За вывешванне нацыянальнага сцяга ў Віцебску сядзеў у турме патрыёт Сяргей Каваленка. У няволі ён трымаў галадоўку.

Улады патроху пачынаюць разумець, што гісторыю не сатрэш. «Пагоня» вярнулася на гербы Магілёва, Віцебскай і Гомельскай абласцей. Як абласны герб яна ўпрыгожвае новую Плошчу Дзяржаўнага сцяга ў Мінску. Для «Пагоні» знайшлі і афіцыйнае вызначэнне — «гістарычны сімвал Беларусі».

### Чырвона-зялёны сцяг: на загад Сталіна

Дзе ж карані сучаснай дзяржаўнай сімволікі? У канцы 1940-х Сталіну спатрэбілася стварыць сцягі саюзных рэспублік СССР, асабліва тых, якія былі членамі ААН. «Саюзныя» сцягі малявалі, маючы за ўзор прапар савецкай імперыі.

Для сцяга БССР узялі беларускі народны арнамент, вышыўку на ручніку, зробленую ў 1917-м сялянкай Матронай Маркевіч з вёскі Касцілішча Сенненскага раёна. Вышыўка называлася «Сонца, што ўзыходзіць». Мастак Гусеў падрыхтаваў праект на аснове гэтага рысунка. Гэты сцяг і зацвердзілі ў 1951.

Герб БССР трохі даўнейшы. Ён быў прыняты ў 1927, таксама на аснове герба СССР.

Спачатку на ім быў надпіс «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» на чатырох дзяржаўных мовах: беларускай, расейскай, польскай і ідыш. Але ў 1937-м польскую і ідыш прыбралі.

Цяперашнія сцяг і герб распрацаваныя на аснове савецкіх. З іх папрыбіралі толькі камуністычныя лозунгі.

Гэты герб маладзейшы за «Пагоню» на 7 стагоддзяў, а сцяг — на 34 гады за бел-чырвона-белы.

**Сяргей Мікулевіч**

# Гэтую ўладу няма пра што прасіць

**Змарнавалі толькі** паперу і час.

Паважаная «Наша Ніва» ў №14 ад 10 красавіка надрукавала «Зварот грамадзян у абарону рабочых «Граніта» і выкладчыкаў Гродзенскага ўніверсітэта».

Выдатна разумею, што рабіць заўвагу людзям, якія падпісалі той «зварот», нясціпла. Але як чалавек са свядомай грамадзянскай пазіцыяй не магу змаўчаць. Шаноўныя заслужаныя людзі, даруйце, калі я ў чымсьці памыляюся, але лічу, што выпрошваць у сённяшняй улады канстытуцыйнай законнасці і праўды — марныя намаганні.

Мы вось ужо 19 гадоў штодня пераконваемся ў тым, што антыбеларускі курс у сённяшняй улады — нязменны, цвёрды і паслядоўны. Беларускія беларусы пачуваюцца ў сваёй краіне надзвычай няўтульна, іх «велічаюць» то «адмарозкамі», то «пятай калонай», то «вашывымі блохамі» і г.д. Таму тых, хто так абражае народ, прасі не прасі, даказвай не даказвай, толькі лоб разаб'еш, надзеі няма і быць не можа. Патрэбна не звароты пісаць, бо іх ніхто не чытае і не разумее, а дзейнічаць па прыкладзе заходнееўрапейскіх краін.

Чаму б не скарыстаць Чарнобыльскі шлях ці Першамай, каб выйсці на акцыю пратэсту ўсім падпісантам, далучыць нават студэнтаў, моладзь? Вось тады ўлады пачухалі б свае патыліцы.

### Прасі не прасі, даказвай не даказвай, толькі лоб разаб'еш

У чэрвені 2009 года на імя Лукашэнкі быў накіраваны ліст так званых 183-х падпісантаў у абарону дзяржаўнай мовы (беларускай). А выніку ніякага, ніхто ліст нават не чытаў. Змарнавалі толькі паперу і час. Улада з падпісантаў проста пасмяялася, пацешылася і правільна зрабіла, бо яны самі сябе паставілі ў такое дурное становішча. Я ўпэўнены, што менавіта так будзе і з гэтым зваротам. Вядома, выйсці на вуліцы з актам пратэсту небяспечна, але без ахвяравання перамогі не бывае, патрэбна рабіць выбар. У нашага народа ёсць такая прымаўка: «Калі запрог каня ў аглоблі, дык паганяй».

**Мікола Канаховіч, Пружаны**

Ян Грыб

## Беражыце цішыню

Ціха, людзі, не шуміце,
Не парушце цішыню,
Негалосна гаманіце,
Падсцілайце дабрыню.

Не шуміце ў лесе, хвоі,
І не гойдайся, трава,
Прыляж, ветрык, у спакоі,
Не кугуй уначы, сава.

Спеў святы плыве лагодна
У кожны дом, у кожны двор.
Марай светлаю, свабоднай,
Душы, мкніцеся да зор.

Хай сягае чысцінёю
Да нябёсаў кожны лёс.
Стане ціша над зямлёю,
Чутна, як ідзе Хрыстос.

# Беларуская глыбіня. **Палацык**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*І рабіў ён спадобнае ў вачах Гасподніх... І ў лясах пабудаваў Палацы і вежы.*
*2 Летапісаў 27:2, 4*

Калі вы раптам спыніцеся ў Пружанах на цэнтральнай Савецкай вуліцы, паміж касцёлам і раённай міліцыяй — з парку насустрач вам ціха выйдзе элегантны, шляхетнай асанкі пружанец з яснымі вачыма. Ён уздыме шырокі капялюш, павітаецца, і вы адразу здагадаецеся: гэта і ёсць той самы знакаміты Палацык.

Італьянская віла ў мадэрнавым стылі, шляхецкая сядзіба, павятовая ўправа, штаб генерала Гудэрыяна ў 1941, дзіцячы садок, стаматалогія, пустая руіна... — і нарэшце, скарбніца беларускай прыгажосці, згубленая сярод пушчаў. Так, у маштабах ліцвінскай велічы, у параўнанні з палацамі Сапегаў, Радзівілаў ці Пацаў ён сціплы Палацык — і называецца так дагэтуль нават на дарожных указальніках.

У сярэдзіне XIX ст. Палацык пабудаваў уладальнік маёнтка Пружанскі ключ Валенці Швыкоўскі. На ягоную замову архітэктар італьянскага паходжання Францішак Лянчы стварыў сапраўднае шляхецкае гняздо, натхнёнае неарэнесансам. Дзяцей маршалак Валенці і ягоная жонка Гермінія не мелі — і ўсю сваю душу ўклалі ў сядзібу, пейзажны парк на восем гектараў і шыкоўны сад — вішні, яблыні, грушы, слівы, чарэшні. За расейскай акупацыяй Швыкоўскія рабілі ўсё, што маглі: адчынілі ў Пружанах грамадскую бібліятэку і народныя школы для вясковых дзяцей, займаліся дабрачыннасцю, ладзілі святы... Сілаў не хапала, і Валенці горка казаў: «Чаго нельга ўкрасці, тое знішчае чужая мова».

### Валенці паставіў Палацык на кон: узяўся збіраць грошы і лекі для паўстанцаў »

Сядзібу Швыкоўскіх наведваў знакаміты Юзаф Крашэўскі, чыё родавае гняздо, Куплін, зусім побач: у многіх з ягоных шасціста тамоў твораў угадваюцца інтэр'еры ды сцэнкі Палацыка. Тут спыняўся і маляваў Напалеон Орда, з чыёй дасканалай графікі можна аднавіць не толькі Палацык ды шыкоўны парк, але і дзясяткі іншых беларускіх сядзібаў. Тут гасцявала і напаўголаса раілася вакольная шляхта.

І ў рэшце рэшт, у 1863-м усю гэтую поўную чашу раскошы, прыгажосці і супакою Валенці, быццам рыцарскі кубак, паставіў на кон: узяўся збіраць грошы і лекі для паўстанцаў. Пасля баёў, адчаю, вышуквання каліноўцаў па пружанскіх лясах, катавання палонных і следства Палацык канфіскавалі за «спрыянне мяцяжу». Высілкамі Гермініі, заступніцтвам уплывовых знаёмых, бясконцымі лістамі сядзібу ўсё-такі вярнулі, але ў 1895-м Швыкоўскія ўсё адно мусілі маёнтак прадаць — сваячцы жонкі Пушкіна Веры Клейнміхель. Некалькі хваляў вайны. Рэвалюцыя. Акупацыі... І над Палацыкам бела-чырвоны сцяг: павятовае старства Другой Рэчы Паспалітай.

Першыя саветы толкам не ведалі, што рабіць з сядзібай. А ў чэрвені 1941-га, пасля разбуральнага нямецкага ўдару, Палацык заняў штаб генерала Хайнца Гудэрыяна, таго самага заснавальніка танкавага роду войскаў у свеце, практыка бліцкрыгаў, які 22 верасня 1939 падчас сумеснага парада з Чырвонай Арміяй перадаваў Берасцейскую крэпасць бальшавікам.



Інтэрнат вучэльні. Аграбіястанцыя. Дзіцячы садок. Стаматалагічная паліклініка... Хто яшчэ мог кватараваць у шляхецкім Палацыку за савецкім часам? Урэшце, горад састарэлага будынка выракся. Развал Саюза Палацык сустрэў пустымі вокнамі.

Аднаўленне і рэстаўрацыю Палацыку дало беларускае Адраджэнне.

Палацык — гэта малады, усмешлівы беларускамоўны дырэктар Юрый Зялевіч, які ладзіць вечарыны ў шляхецкім стылі, «ночы музеяў» і запрашае сюды бардаў ды пісьменнікаў.

Каманда Палацыка з чатырох чалавек робіць сваю справу без вялікіх грошай і без помпы: збірае, захоўвае і шчодра рассявае перад беларусамі даўнія прыгажосці; ладзіць сустрэчы, канцэрты і цэлыя балі, дае пружанцам удыхнуць казачнага водару шляхетнасці, удумлівай інтэлігентнасці, *беларускага дома*, які натхняў геніяў і эпохі.

Палацык — гэта пакоі, адныя назвы якіх гучаць як музыка: кветкавая зала, паляўнічы кабінет, трафейны пакой, салон. Гэта жырандолі, вялізныя люстры, вырабленыя скуры, крэслы, канапы, камін. Калекцыя керамікі, манетаў, дакументаў. Выстава драўлянай «батлейкі» Мікалая Тарасюка. Палацык — гэта раскошная аранжарэя, «раёк», роўнага якому не было і ў Радзівілаў: будынак на тры коміны, крыты гонтай, з катлом для абагрэву вады — і без малога тысячай раслінаў. Пальмы, агавы, адаліі, апельсінавыя, лімонныя ды васковыя дрэвы, абуцымоны, камеліі, мацыёлы, мірты...

Палацык — гэта 200-гадовы юбілей Крашэўскага і нядаўняя рэспубліканская канферэнцыя, прысвечаная паўстанню 1863 г.

Палацык — гэта бясцэнны абраз «Таемная вячэра» з Варанілавічаў, пачатак XVII ст., залаты век Беларусі, што глядзіць на цябе з паўзмроку стагоддзяў, быццам дванаццаць апосталаў і праўда тут, у пакоі схавана ў цяні дрэваў Палацыка, сабраліся слухаць Хрыста.

Шляхецкія сядзібы, крэпасці пяшчотнай і празрыстай беларускай красы — не легенды, а сапраўдная гісторыя. І не прывіды ды зданi, а малітвы, высілкі волі і Божыя адкрыцці ажываюць для нас, нашчадкаў, у гэтых расчыненых залах, ахопленых водсветамі свечак паркетах і светлых вокнах-вачах. У тыя часы, калі Беларусь баялася Бога, а не ўладароў, калі да вас дахаты пілігрымам заходзіла Евангелле, калі любоў пераплаўляла супярэчнасці, а вера тварыла цуды — у гулкіх, сляпушчых, з высокімі столямі залах адлюстроўвалася вялікае пакліканне.

Палацык — гэта пасланне да кожнага з нас ад тае шляхты, якая не спынілася, не прадалася, не выраклася радзімы пад шыбеніцамі. Сведчанне росквіту, цаласці, моцы, якія напаўняюць да краёў беларускае жыццё і беларускую душу, аддадзеныя Айчыне і Богу.

*Куплін*

# Гісторыя Беларусі. Частка XXVIII

# Вершнікі Апакаліпсіса

Піша **Алег Дзярновіч**.



Мы развіталіся з Усяславам Полацкім, калі ён страціў кіеўскі пасад у 1069 (гл. «НН»№4’2013). Але поўная эксцэнтрыкі палітычная і былінная гісторыя нашага героя на гэтым зусім не скончылася.

Усяслаў Полацкі, вызвалены з поруба і пастаўлены князем пасля кіеўскага паўстання 1068-га, не захацеў бітвы з выгнаным кіяўлянамі князем Ізяславам. У ноч перад бітвай Усяслаў таемна пакідае кіеўскае войска. Куды ідуць яго шляхі? У Полацк дарогі няма, там княжыць сын Ізяслава, Мсціслаў. А пасля, як той памёр, бацька паслаў у крывіцкую сталіцу іншага сына — Святаполка. Усяслаў ідзе на поўнач, набірае дружыну з фінскага племя водзь і выступае супраць Ноўгарада.

## На чале водзі

Водзь была аскялепкам той фінамоўнай цывілізацыі, якая распусцілася ў расійскім этнасе. Гэты народ меў саманазву vaďďalaizõd (адкуль і паходзіць «водзь») і насяляў тэрыторыю сённяшняй Ленінградскай вобласці. Гэта іх землі назавуць Інгерманландыяй, ці Іжорай. Але што прывяло туды Усяслава? Мікола Ермаловіч вылучыў гіпотэзу, што маці полацкага князя магла паходзіць з гэтага племені. Гэтая версія не мае дакументальных пацверджанняў. Але мы пэўна ведаем пра водзь тое, што гэты народ у XI ст. плаціў даніну Ноўгараду. Даніна была цяжкай — у неўрадлівы 1071 на Белавозеры ўспыхне паўстанне. Мясцовае насельніцтва на чале з валхвамі прынясе ў ахвяру наўгародскіх пасаднікаў і падзеліць запасы хлеба і мёду. Ваявода Ян Вышаціч пасля жорстка задушыць хваляванні і сімвалічна павесіць валхвоў на дубе.

У пастаянных супярэчнасцях з Ноўгарадам фінскім лясным дружынам трэба быў такі дасведчаны ваяр, як Усяслаў. Аднак яго выправа на Ноўгарад была няўдалай — у бітве на рацэ Гзені наўгародцы пад кіраўніцтвам князя Глеба Святаславіча разграмілі водзь, а Усяслаў трапіў у палон.

## «Адпусцілі Бога дзеля»

І тут лёс паднёс яму яшчэ адзін нечаканы падарунак. Усяслава, як паведамляе Наўгародскі летапіс, пераможцы «адпусцілі Бога дзеля». Магчыма, ён прысягнуў больш не нападаць на Ноўгарад. Раслі і наўгародска-кіеўскія супярэчнасці. Наўгародцам было палітычна нявыгадна трымаць такога ворага Кіева, як Усяслаў, у вязніцы. Большую карысць ён прынёс бы ім на чале полацкіх дружынаў.

І ў 1071 Усяслаў нечакана для кіеўскага гарнізона ў Полацку з’явіўся пад сценамі сваёй сталіцы ды выгнаў кіеўскага стаўленіка. Рэакцыя была хуткай — у тым жа годзе Ізяслаў накіраваў на Полаччыну войска. У бітве ля Галацічаска полацкае войска было разбітае. Дзе быў той Галацічаск — і сёння загадка. Але, відаць, па-за межамі Полацкай зямлі. І пасля бітвы кіеўскае войска на Полацк не пайшло.



**Алег Дзярновіч**

Гісторык. Нар. у 1966.
Аўтар працаў па гісторыі, гісторыі культуры, археалогіі Сярэднявечча і Новага часу.

## Раскалоць і аслабіць

Усяслаў з досведу ведаў, што Яраславічаў, калі яны дзейнічаюць разам, ён перамагчы не можа. Таму, умацаваўшыся ў Полацку, Усяслаў заняўся раз’яднаннем братоў. Ужо ў 1073 чарнігаўскі князь Святаслаў выгнаў з Кіева свайго брата Ізяслава. Памагаў яму Усевалад Пераяслаўскі. Браты, калі верыць летапісам, баяліся, што Ізяслаў увойдзе ў саюз з іх даўнім ворагам Усяславам Полацкім. Гэты саюз нібы меўся быць аформленым праз шлюб княскіх дзяцей — чарнігаўскі князь заявіў брату, што «Ізяслаз сваціцца з Усяславам». Праўда, слова «сваціцца» магло значыць як «змаўляцца» — праектаў «саюзнай дамовы» князі даследчыкам не пакінулі. Ізяслаў уцёк у Польшчу, якая рэгулярна давала прытулак рускім князям. Але і Святаслаў не спяшаўся ісці вайной на Полацк: у зносінах наступае паўза, верагодна, мірная.

Праз тры гады Святаслаў памёр — на 50-м годзе жыцця, падчас адной з першых, вядомых нам паводле пісьмовых крыніц, хірургічных аперацый ва Усходняй Еўропе, ад «рэзання жэлве» (разразання пухліны). З наступнікамі Святаслава Полацк знаходзіўся ў стадыі перманентнага канфлікту. Пра гэта можа распавесці *«Павучанне»* Уладзіміра Манамаха.

## Клопат Манамаха

Уладзімір — знакамітая постаць у гісторыі Русі. Ён быў сынам аднаго з антаганістаў Усяслава — Усевалада Яраславіча і дачкі візантыйскага імператара Канстанціна IX Манамаха. Уладзімір (1053—1125) быў самым адукаваным з рускіх князёў, ён склаў для дзяцей твор-павучанне, як трэба жыць і кіраваць. Хоць сам у рэальным жыцці не заўсёды трымаўся апісаных прынцыпаў. «Павучанне» цікавае нам тым, што змяшчае падрабязныя звесткі пра падзеі 1070—1110-х, найперш пра змаганне з Усяславам Полацкім.

Манамах распавядае, як летам 1077 ён з бацькам хадзіў на Полацк. Пра выніку паходу не паведамляецца, гэта дазваляе меркаваць, што палачане выстаялі. Узімку таго ж года Манамах ужо разам з полаўцамі — зноў у паходзе



**Усяслаў Чарадзей**

(1029—1101) Полацкі князь. Адстойваў незалежнасць Полацкай зямлі. Кіраваў 57 гадоў (1044—1101). Змагаўся з Ноўгарадам за гандлёвыя шляхі. Кароткі час (1068) быў кіеўскім князем. Пры ім Полацк займеў Сафійскі сабор і стаў роўным па велічы іншым двум вялікім усходнеславянскім цэнтрам — Ноўгараду і Кіеву. Згадваецца ў «Слове пра паход Ігараў», у народных былінах. Вобраз Усяслава шырока прадстаўлены ў беларускім мастацтве, у Полацку яму стаіць конны помнік.

супраць Усяслава. Захопнікі падпалілі горад, але ўмацаваны дзядзінец узяць не змаглі... Чаму такая актыўнасць — па два паходы на год? Трэба прыгадаць, што Усяслаў паразумеўся з Ноўгарадам. І цяпер спрабаваў падпарадкаваць сваёй уладзе Верхняе Падняпроўе. Гэта сустрэла жорсткі адпор кіеўскіх князёў.

Увосень 1078 полацкі князь здзейсніў самы рашучы крок сваёй «дняпроўскай» палітыкі — напаў на Смаленск і спаліў яго. Уладзімір Манамах з войскам спрабаваў дагнаць Усяслававу дружыну, змяняючы коней. Не дагнаў, але «паваяваў» ваколіцы Лукомля, Лагойска і Друцка. У 1084 (альбо 1085) Манамах зноў ідзе на поўнач: разам з полаўцамі ён узяў Менск і не пакінуў у горадзе «...ні чалядзіна, ні скаціны». Гэта значыць, захапіў самы каштоўны набытак — рабоў і быдла.

Потым паведамленні пра Полаччыну знікаюць са старонак рускіх летапісаў аж на восем гадоў. Затое запісы, якія датуюцца 1092, цалкам неверагодныя.

## Нашэсце наўя

Па полацкіх вуліцах уначы на вуліцах сноўдала нячыстая сіла. Калі ж хто асмельваўся высунуцца са свайго жытла, «бываў уражаны нябачна ад бесаў язвай і ад таго паміраў». Пасля пачалі з’яўляцца здані на конях, але саміх коней не было бачна — толькі сляды капытоў. Летапісец дае назву гэтым вусцішным прывідам — наўё — і падкрэслівае, што навала прыйшла з Друцка.

Этымолагі кажуць, што «наўём» называлі нябожчыкаў, якія памерлі на працягу года. Даследчыкі па-рознаму тлумачылі летапіснае паведамленне. Гісторык Леанід Аляксееў лічыў яго «тыпова літоўскім паданнем», запісаным на Полаччыне, якое пазней трапіла ў летапісы. Маўляў, хрысціянскае Полацкае княства проціпастаўлялася злу-насланню з суседняй паганскай Літвы. У падмацаванне версіі аўтар прыгадвае, што літоўцы ў старажытнасці хавалі нябожчыка разам з яго канём. Мікола Ермаловіч бачыў у гісторыі з «наўём» прапагандысцкія хітрыкі Кіева, які хацеў паказаць Полаччыну гняздом д’ябальскай нечысці і праклятым краем. Магчыма, у аснове легенды ляжыць праўдзівы факт нейкай эпідэміі, якая пачалася ў Друцку і дайшла да Полацка.

Але варта звярнуць увагу на год, пад якім апісаная падзея. Летапісы вяліся паводле візантыйскай сістэмы летазлічэння, ад стварэння свету, і нашэсце наўя на Полацк адбылося ў 6600 годзе. Праз кожныя сто год — у 1092, 1192, 1292 і г.д. (6600, 6700, 6800...) усходнехрысціянскі свет чакаў канца свету. Гісторык Генадзь Семянчук выказвае думку, што гісторыя з нашэсцем нечысці магла з’явіцца ў сувязі з пікам эсхаталагічных чаканняў. І «наўі» на конях з’яўляюцца вершнікамі Апакаліпсіса.

Апроч таго, даследчыкі знаходзяць тут яўныя паралелі з германскім фальклорам і архаічнымі звычаямі — калі моладзь збіралася ва ўзброеныя конныя групы і нападала на варожыя плямёны. Такі абрад называўся Дзікім паляваннем. Падобным чынам «полацкае наўё» і паказанае на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу — чорныя постаці скачуць на конях, наводзячы жах на наваколле.

## Першы народны абраннік

Князь Усяслаў, герой і ахвяра, пераможца і шматкроць пераможаны, пайшоў з жыцця ў 1101. Летапісец пазначыў не толькі дзень, але нават час яго скону — 14 красавіка, а 9-й гадзіне дня, у сераду. Нібы падкрэсліваючы неардынарнасць постаці полацкага князя.

Што ж пакінуў Усяслаў нам, духоўна ці крэўна звязаным з ягонай дзяржавай і зямлёй? Безумоўна, гэтая постаць уваходзіць у беларускі пантэон. Але як здарылася, што полацкі ўладар, які прайграў столькі бітваў, пакінуў такі глыбокі след у народнай памяці? Вядома, да гэтага спрычыніліся кіеўскія падзеі 1068, калі на хвалі паўстання князь атрымаў арэол народнага абранніка.

Асноўным жа вынікам дзейнасці Усяслава трэба лічыць захаванне цэльнасці і палітычнай незалежнасці Полацкай дзяржавы. За 57 гадоў Усяслававага кіравання Полацкае княства толькі чатыры гады — ад 1067 да 1071 — знаходзілася пад уладай Кіева. Нечаканай можа падацца і іншая статыстыка. Як паказаў Марат Клімаў, за час уладарання Усяслава, якога часта называюць авантурыстам, толькі 15—20 гадоў прыпадаюць на перыяды актыўных ваенных дзеянняў. Усяслаў канчаткова далучыў да Полацкай зямлі Ніжняе Падзвінне і пачаў барацьбу за пашырэнне княства на ўсход. Адбудову полацкай Сафіі і аднаўленне Менска таксама можна залічыць на станоўчы рахунак гэтага няўрымслівага чалавека і ўладара.

### ФУТБОЛ

#### Тур 9

**17—18 мая пройдуць матчы чарговага тура чэмпіянату краіны па футболе.** У пятніцу сустракаюцца:
«Гомель» — «Нёман» (Гродна); «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) —«Белшына» (Бабруйск);
«Дынама» (Мінск) — «Славія» (Мазыр).
У суботу:
«Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Брэст);
«Шахцёр» (Салігорск) — БАТЭ (Барысаў) — цэнтральная гульня тура. Будзе трансляцыя на «Беларусь-2»;
«Нафтан» (Наваполацк) — «Мінск».

### ІМПРЭЗЫ

#### Міфф-2013

**24 і 25 мая а 19-й на стадыёне «Трактар»** — міжнароднае шоу агню «Міфф-2013». У фэсце возьмуць удзел звыш 70 удзельнікаў з розных краін свету. Усе ўдзельнікі будуць выступаць пад музычнае суправаджэнне ў розных жанрах: сярэднявечча, рамантыка, хард-рок, сольныя выступы…

#### Зкімбы-зымбы

**15 мая ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37а)** — прэзентацыя кнігі Аляксандра Лукашука. «Зкімбы-зымбы». У вечарыне возьмуць удзел Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Аляксандр Лукашук, Генадзь Мацур, Уладзімір Някляеў, Пятро Садоўскі, Барыс Пятровіч. Пачатак а 17-й.

### КАНЦЭРТЫ

#### Neuro Dubel

**17 мая а 19-й у «Цэнтры» (Кастрычніцкая пл., 1)** — канцэрт Neuro Dubel.

#### Зміцер Вайцюшкевіч

**22 мая а 20-й у кавярні Olivo (Валадарскага,13, 2 паверх)** — канцэрт Змітра Вайцюшкевіча, прымеркаваны да дня народзінаў Адама Русака.

#### Залаты альбом

**18 мая а 23-й у Купалаўскім скверы ля ўвахода ў музей Янкі Купалы (вул. Я. Купалы 4)** — канцэрт гурту «BosaeSonca».

# Ноч музеяў



**У ноч з 18 на 19 мая музеі і галерэі Мінска** ў дзявяты раз далучацца да міжнароднай акцыі «Дзень музеяў». Арыгінальныя выставы і эксклюзіўныя экспазіцыі.

**Нацыянальны мастацкі музей (Леніна, 20).** «Беларуская ноч, або Музей у фантастычных апавяданнях». Музей на нейкі час ператворыцца ў сядзібу шляхціча Завальні. Будзе шмат містыкі.

**Музей Максіма Багдановіча (Багдановіча, 7).** Галоўнай экспазіцыяй будзе мода часоў Максіма Багдановіча.

**Музей Якуба Коласа (Акадэмічная, 5).** Адзначаць 130-годдзе Янкі Маўра, 90-годдзе «Новай зямлі» і 100-годдзе вяселля Якуба Коласа.

**Музей Янкі Купалы (парк імя Янкі Купалы).** Прадстаўленне-выстава «PaЎlinka-party».

**Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны перавулак).** Таямнічая «Справа ў доме часоў». Наведвальнікаў абяцаюць палохаць.

**Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр.Незалежнасці, 25а).** Экспазіцыя «Партызанскі лагер».

**Музей гісторыі беларускага кіно (Маркса, 30).** Забытыя кінастаронкі, беларускія фільмы, «якіх ніхто не бачыў». Таксама будзе канцэрт гурту «Гуда».

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці).** Клоўны і хадулісты. Тэатр «Дом сонца».

**Музей народнай архітэктуры і быту ў Дудутках.** Выступы студэнтаў медуніверсітэта з Туркменістана, Мазамбіка, Таджыкістана, Нігерыі. Майстар-класы па вырабу керамікі.

**Музей Петруся Броўкі (Маркса, 30).** Інтэрактыўная праграма «Жывыя 50-я».

**Музей гісторыі Акадэміі навук (Акадэмічная, 66).** Ніякай адмысловай праграмы няма, але магчымасць схадзіць будзе ва ўсіх, хаця звычайна толькі па запісе.

**Музей Заіра Азгура (Азгура, 8).** Джаз-марафон.

**Нацыянальны гістарычны музей (вуліца Маркса).** Акцыя пад магічнай назвай «13». Хто нарадзіўся 13-га чысла — уваход вольны.



#### Akute

**16 мая а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт Akute.

#### Я — літвін

**19 мая а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — тэатр аднаго актора «Зніч» з праграмай «Я — літвін», прымеркаванай да 190-годдзя з дня народзінаў У.Сыракомлі.

### ВЫСТАВЫ

#### Экспартны варыянт

Да 27 мая ў кнігарні ЛогвінаЎ (пр. Незалежнасці, 37а) працуе выстава "Экспартны варыянт. Беларуская літаратура ў замежных перакладах". Наведнікі змогуць азнаёміцца з выданнямі сучаснай беларускай літаратуры на іншых мовах. Прызнаныя айчынныя аўтары Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Ларыса Геніюш, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Андрэй Хадановіч, Наталка Бабіна, Барыс Пятровіч, Артур Клінаў і Адам Глобус у англійскіх, польскіх, украінскіх, нямецкіх, чэшскіх, шведскіх, расійскіх перакладах.

### КІНО

#### Жарты ўбок

**Жанр:** камедыя, крымінал
**Рэжысёр:** Давід Шарон
**Акцёры:** Лiянэль Абеланскі, Амар Сі, Ларан Лафіт, Сабрына Уазані, Юсэф Хадждзі
Францыя, 2012, 96 хв.

Усман, дзёрзкі коп з парыжскага прыгарада, і Франсуа, амбіцыйны сталічны паліцэйскі, аб'ядноўваюць намаганні ў расследаванні забойства жонкі вялікага чыноўніка. Усман і Франсуа — розныя. Усман жыве па законах камедый з Эдзі Мэрфі, Франсуа любіць Бельмандо ў «Прафесіянале» і «Смяротную зброю». Але разыходжанне ў кінагустах — нішто, калі на карту пастаўленае гучнае выкрыццё карупцыі ў самых вярхах і, вядома, сяброўства! Адзін плюс адзін = каманда, а жарты — убок!



# Дзе выгадна купляць беларускія кнігі?

**Параўноўваем цэны ў кнігарнях.**

Знайсці і купіць амаль любую беларускамоўную кнігу цяпер не праблема. Апроч кнігарняў сеткі «Белкніга», незалежных «Кніжнага салона» і кнігарні «логвінаЎ», існуе некалькі сайтаў з вялікім каталогам.

Іншае пытанне — цэны, якія ў залежнасці ад прадаўца могуць адрозніваца ў некалькі разоў. «Наша Ніва» параўнала цэннікі ў кнігарнях па некалькіх пазіцыях. Асартымент крамаў моцна адрозніваецца, таму кнігі адбіраліся па наяўнасці ў большасці з кнігарняў.

Раскошнае перавыданне кнігі Уладзіміра Арлова **«Краіна Беларусь»** стала сапраўднай падзеяй на беларускім кніжным рынку. Да таго ж нядаўна выйшлі пераклады «Краіны Беларусь» на рускую і англійскую мову. Самая нізкая цана на кнігу на сайце Prastora.by — 334 900 рублёў, самая высокая ў «Акадэмкнізе», якая належыць да сеткі «Белкніга»: 353 650 рублёў.

Кніга барысаўскай пісьменніцы Алены Брава **«Рай даўно перанаселены»** трапіла ў лонг-ліст сёлетняй прэміі імя Ежы Гедройца і шмат кім лічылася фаварытам прэміі. Набыць яе можна бадай у кожнай кнігарні, але танней за ўсё — у «Кніжным салоне». А вось у краме «логвінаЎ» нацэнка самая вялікая. Кніга каштуе амаль у паўтара разу даражэй!

Падобная сітуацыя і са зборнікам эсэістыкі Нобелеўскага лаўрэата Чэслава Мілаша. **«Родная Еўропа»** ўвайшла ў чатырохтомнік пісьменніка. Цана на яе скача ад 40 тысяч да 100 тысяч, прычым найлепшая цана ў «Кніжным салоне».

**«Шалом»** Артура Клінава можна знайсці нават за 16 тысяч рублёў. Такі цэннік у сетцы «Белкнігі». У некаторых крамах сеткі яшчэ засталіся асобнікі, цана на якія не змянілася з моманту выхаду. У інтэрнэт-крамах пераацэнка адбываецца хутчэй, таму на сайце imbryk.by за «Шалом» просяць ажно ў чатыры разы больш!

28-старонкавая казка **«Каваль з Вялікага Вутану»** культавага англійскага пісьменніка Джона Р.Р. Толкіна мае самую вялікую розніцу ў цэнах. За 11 тысяч рублёў яе можна набыць на Knihi.by, а за 48 тысяч — на Prastora.by.

«Цэны на кнігі залежаць перадусім ад пастаўшчыка, — тлумачыць таваразнаўца **«Акадэмкнігі»** Вольга Клычкова. — На адную і тую кнігу год таму і зараз могуць быць зусім розныя цэны. Напрыклад, «Рай даўно перанаселены» раней каштаваў 49 тысяч рублёў, а цяпер — 62 тысячы. Магчыма, з'явіўся новы наклад, але кнігі са старога накладу мы прадаём па пачатковым кошце». Па яе словах, нацэнка ў крамах «Белкнігі» па ўсёй краіне аднолькавая — 30%.

«Я арыентуюся на сярэднія цэны на кнігі, — кажа стваральнік **«Імбрыка»** Алесь Мазанік. — Калі нехта знойдзе тую самую кнігу за меншы кошт у іншай краме — на здароўе. Я не лічу, што «Імбрык» і іншыя крамы — канкурэнты, бо мы займаемся адной справай».

Дырэктарка кнігарні **«логвінаЎ»** Кацярына Пікірэня пагаджаецца, што ў незалежных кнігарнях нацэнка адрозніваецца ад той, што існуе ў дзяржаўных. Па яе словах, найбольшую частку даходаў даводзіцца выдаткоўваць на арэнду памяшкання.

**Юрась Ускоў**

**Адрасы**

«Акадэмкніга» (Мінск, пр. Незалежнасці, 72)

«Кніжны салон» (Мінск, вул. Калініна, 5)

«ЛогвінаЎ» (Мінск, пр. Незалежнасці, 37а)

www.prastora.by

www.knihi.by

www.imbryk.by

**Кошт дастаўкі ў інтэрнэт-крамах**

За перасылку па краіне «Белпошта» бярэ 3—5% ад кошту пасылкі. У Мінску кнігу перадае кур'ер.

**Запасны варыянт**

Беларускамоўныя кнігі можна пашукаць і ў каталогу сайта OZ.by. Там можна знайсці некаторыя кнігі, якія цяжка купіць у кнігарнях.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

| Кніга/кнігарня | Knihi.by | Imbryk.by | Prastora.by | «логвінаЎ» | «Акадэмкніга» | «Кніжны салон» |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Уладзімір Арлоў «Краіна Беларусь» | 345 000 | — | 334 900 | 349 000 | 353 650 | — |
| Алена Брава «Рай даўно перана-селены» | 67 200 | 65 000 | 49 900 | 72 000 | 62 400 | 46 800 |
| Чэслаў Мілаш «Родная Еўропа» | 54 000 | 100 000 | 49 900 | 86 400 | 46 800 | 40 320 |
| Артур Клінаў «Шалом» | 36 000 | 65 000 | 32 900 | 43 200 | 16 250 | — |
| Джон Р.Р. Толкін «Каваль з Вялікага Вутану» | 10 800 | 40 000 | 47 900 | 14 400 | — | — |



**Аўто**

## У Мінску адкрыецца аўтасалон «Бэнтлі»

**Машыны па 200 тысяч еўра будуць прадаваць у «доме Чыжа».**

Звышдарагія машыны будуць прадавацца ў сталіцы ўжо ўлетку. Салон адкрыецца ў доме каля Траецкага прадмесця. Чакаецца, што ў аўтацэнтры будзе прадстаўлены ўвесь мадэльны шэраг «Бэнтлі».

Самыя танныя мадэлі гэтай прэстыжнай маркі каштуюць каля 150—200 тысяч еўра. Што казаць, калі нават значок на капот для гэтых аўто каштуе як сярэдні заробак у Беларусі.

Канцэрн, які выпускае «Бэнтлі», належыць нямецкаму «Фальксвагену».

**ЯМ**

**Здароўе**

## Найбольш абортаў робяць на Гомельшчыне

**У Беларусі перарываюцца 19,7% цяжарнасцяў.**

Белстат падлічыў, колькі цяжарнасцяў у Беларусі было летась перарвана. Аказалася, што кожная пятая — 19,7%. Прычым з захаду на ўсход краіны лічба моцна ўзрастае. Найменш абортаў робяць на Брэстчыне, найбольш — на Гомельшчыне.

Якая сітуацыя ў суседніх краінах? Найменшая доля абортаў у Польшчы — зрэшты, у гэтай краіне перарванне цяжарнасці забаронена законам. Таксама невысокая ў Аўстрыі і Босніі (да 5%).

| | |
|---|---|
| Брэстчына | 13,8% |
| Міншчына | 15,7% |
| Гродзеншчына | 17,7% |
| Магілёўшчына | 19,4% |
| Віцебшчына | 22,2% |
| Мінск | 23,2% |
| Гомельшчына | 24,3% |

А вось у Румыніі, Венгрыі і Эстоніі доля перарваных цяжарнасцяў складае каля 30%. У Расіі ж гэтая лічба дасягае 40%. У некаторых рэгіёнах на адныя роды прыходзіцца адзін аборт.

**ЯМ**

## Прыватныя абвесткі

**ПРАДАМ**

**Прадам стары дом** з участкам 0,25 га ў маляўнічым месцы Вілейшчыны, 100 км ад МКАД. Добры пад'езд, вакол лясы, побач рэчка Нарачанка. Ідэальнае месца для лецішча або аграсядзібы. Т.: (044) 792-36-88, (033) 602-19-74.

**ЗДАМ**

**Здам на лета аграсядзібу** «У Бондара на Загрэблі». Т.: (029) 941-50-81, (029) 578-12-83.

**ПАДАРОЖЖА**

**Запрашаем у сяброўскае падарожжа** на Грунвальдскі фэст з заездам у гарады Мальбарк і Гданьск 12—15 ліпеня. Т.: (029) 622-57-20.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

14 мая — Радаўніца. Дзень, калі беларусы ўшаноўваюць продкаў. На Радаўніцу людзі ідуць на могілкі. У многіх мясцовасцях Беларусі існуе традыцыя памінаць людзей абедам на могілках. На фота: Радаўніца ў Барысаве.



**Візіт прэзідэнта ЗША Барака Абамы (за кадрам), які 5 мая атрымаў ва ўніверсітэце Каламбуса (Агаё) ганаровую ступень, не збянтэжыў мясцовых студэнтаў — некаторыя назіралі за кіраўніком дзяржавы ў кедах, шортах або шлёпках.**




**10 мая ў Мінску з'явіліся беларускамоўныя ўлёткі з выявамі і біяграфіяй вядомых беларусак. Улёткі прымацоўвалі да слупоў, на аўтобусных прыпынках, білбордах. Прынамсі, былі заўважаныя плакаты з Касяй Камоцкай, Ларысай Геніюш, Палутай Бадуновай, Галінай Русак, Таццянай Заміроўскай.**



**У Вілейцы жартаўнік дадаў у гарадскі фантан мыла, той стаў увесь у пене.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Чаму чалавек такі недасканалы? Нервовыя клеткі не аднаўляюцца, а тлушчавыя не паміраюць!

* * *

«Будзьце як дома, дарагія расіяне», падумалі беларусы і стварылі для турыстаў з усходняй краіны заторы на дарогах.

***

Я ішла па горадзе, прыцягваючы позіркі мінакоў. Папулярнасць? Думаю, што не. Прыгажосць? Таксама малаверагодна. Аранжавая бензапіла ў руках? Магчыма.

* * *

Мой пакой быў чыстым, але потым я павінна была вырашыць, што апрануць.

* * *

На заробак беларуса жыць можна. Цяжка толькі апошнія 27 дзён.

* * *

Як толькі Лукашэнка заяўляе, што беларусы хутка стануць жыць лепш, цэны тут жа падскокваюць уверх. Відаць, ад радасці за беларусаў...

* * *

На ўроку геаграфіі настаўніца Ядвіга Феліксаўна кажа:

— Янка, вось у цябе ў контурнай карце чаму на месцы Валожынскага раёна пустое месца?

— Дык яны ўсе ў Мінску працуюць!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Адчынена ў Вільні** добрая інстытуцыя пад названнем «Капля малака», адкуль бедным дзецям даюць дарма добрае малако. Пакуль што адкрыта толькі ў Францішканскіх мурах, але маняцца адкрыць пасля аддзелы і ў іншых часцях горада.

**«НН». №19. 1913.**

**Сэрцам у Еўропе.** 90,4% літоўцаў на рэферэндуме 10—11 мая прагаласавала за ўваходжанне краіны ў Еўрасаюз. Справа вырашаная! Вільня з галавою акунулася ў святочную эйфарыю. Старажытная сталіца Беларусі, сэрца нацыі, дзе Багушэвіч вярнуў ва ўжытак саму назву «Беларусь», дзе была заснаваная першая беларуская газета «Наша Ніва», — ужо не толькі геаграфічна, але і палітычна ў Еўропе.

**«НН». №18. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
наменнікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 14.05.2013.
Замова № 2133.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 13018